Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

**НАДЗВЫЧАЙНЫ XII З'ЕЗД СОВЕТАЎ БССР**

**ЧРЕЗВЫЧАЙНЫЙ XII СЪЕЗД СОВЕТОВ БССР**

**איסעראָרדנטלעכער XII-טער אלווייסרוסישער סאָוועטנצוזאמענפאָר**

**NADZWYCZAJNY XII ZJAZD RAD BSRR**

## БЮЛЕТЭНЬ №4

# ПАСЯДЖЭННЕ ЧАЦВЕРТАЕ

Ранішняе, 22 лістапада 1936 г.

**Пушчын** (старшыня). Таварышы, чацвертае пасяджэнне з'езда абвяшчаю адчыненым.

Прыступім да спрэчак. Першае слова мае старшыня Талачынскага РВК тав. Конікаў.

**Конікаў.** Таварышы, беларускі народ, як і ўсе многамільённыя масы працоўных многанацыянальнай сям'і народаў нашай краіны, з вялікім энтузіязмам, абгаварваў і аднагалосна адобрыў праект сталінскай Канстытуцыі, самай дэмакратычнай Канстытуцыі ва ўсім свеце. Сталінская Канстытуцыя—гэта дакумент, які з'яўляецца яркім адлюстраваннем сталінскай эпохі, клопатаў аб жывым чалавеку, яркім адлюстраваннем тых перамог, тых велізарнейшых дасягненняў, якіх дабіўся пролетарыят у саюзе з сялянствам пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна.

Таварышы, няма ніводнай краіны ў свеце, канстытуцыя якой магла быць параўнана з нашай Канстытуцыяй. Нідзе, акрамя СССР, няма соцыялістычнага грамадства, няма такога грамадскага ладу, дзе не было-б эксплаатацыі, дзе чалавек не дрыжаў бы за тое, што заўтра можа згубіць работу, жыллё і хлеб. У СССР пабудавана соцыялістычнае грамадства, няма беспрацоўя і галечы, чалавек не дрыжыць за тое, што заўтра можа згубіць работу, жыллё і хлеб. У нас квітнее заможнае шчаслівае жыццё, а таму ў нас не папяровая, а сапраўдная свабода для працоўных. Вось чаму на шматлікіх сходах рабочых і калгаснікаў, на раённых з'ездах советаў і тут на Ўсебеларускім З'ездзе з вуснаў старыкоў, моладзі, піонераў і акцябрат нясецца кліч: «Дзякуй таварышу Сталіну за шчаслівае жыццё!» (а п л а д ы с м е н т ы).

У Талачынскім раёне, як і ва ўсіх раёнах ордэнаноснай Беларусі, абгаварэнне сталінскай Канстытуцыі прайшло таксама пры вялікай актыўнасці, пры вялікім энтузіязме і ўздыме калгаснікаў, калгасніц, рабочых і работніц соўгасаў, усіх працоўных раёна. На шматлікіх сходах, ва ўсіх калгасах і соўгасах была абгаворана Канстытуцыя. Праўда, у першыя дні абмеркаванне сталінскай Канстытуцыі было недастаткова разгорнута, якасна слаба

з недастатковым ахопам шырокіх мас працоўных. 26 жніўня Прэзідыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта заслухаў справаздачу райвыканкома аб ходзе абгаварэння праекта сталінскай Канстытуцыі і даў нездавальняючую ацэнку рабоце і прапанаваў нам выправіць памылкі. Мы гэта рашэнне ЦВК абмеркавалі на пасяджэнні бюро РК КП(б)Б і прэзідыуме райвыканкома і пасля гэтага да самага раённага з'езда советаў праводзілі работу па давядзенню да свядомасці ўсіх працоўных праекта сталінскай Канстытуцыі, гэтай хартыі перамогшага пролетарыяту.

Праведзен 791 сход. У кожным калгасе, соўгасе, населеным пункце было праведзена ад 4 да 6 сходаў. У абгаварэнні Канстытуцыі прыняла ўдзел больш 22 тысяч чалавек, унесена больш 200 прапаноў, каля 4000 працоўных выступалі на сходах. Усе выступленні былі пранізаны гарачай любоўю, адданасцю і падзякай тварцу новай Канстытуцыі, вялікаму генію і правадыру народаў таварышу **Сталіну** (а п л а д ы с м е н т ы).

Сталінская Канстытуцыя на гэтых шматлікіх і шматлюдных сходах, на пленумах сельсоветаў, на раённым з'ездзе советаў атрымала поўнае і аднагалоснае адабрэнне.

Талочынскі раён прышоў да раённага з'езда советаў з вялікімі дасягненнямі. Калгасны лад перамог канчаткова. 10 тысяч сялянскіх двароў аб'яднаны ў 201 калгас. За ўсімі калгасамі зямля замацавана на вечнае карыстанне. Акты на вечнае карыстанне зямлёй выданы на 86 тысяч га, або 99% усёй зямельнай плошчы калгасна-сялянскага сектара. У раёне ёсць 2 МТС. На калгасных палях працуе 116 трактароў, якія апрацоўваюць 70 тысяч га з 86 тысяч га замацаваных за калгасамі. Спрадвечная мара селяніна аб зямлі збылася толькі пры совецкай уладзе.

Тав. **Чэрвякоў** гаварыў, што ў 1924 г. у БССР было 129 тысяч сох. Для раённай сельскагаспадарчай выстаўкі мы з вялікімі цяжкасцямі знайшлі адну саху ў раёне, прычым шукалі яе амаль два тыдні. Знайшлі мы гэту саху ў аднаго аднаасобніка на задворках, прычым гэта саха з адным нарогам, а другога нарога так і не знайшлі.

**Чэрвякоў.** Смыка няма?

**Конікаў.** Смыка няма. І гэтую саху мы паставілі паміж трактарам «Чэлябінец» з 8-корпусным плугам і камбайнам. Гэта параўнанне сахі—сымбаля старай Расіі з новай передавой тэхнікай лепш усякіх слоў красамоўна гаварыла аб тым велізарнейшым шляху, які прайшло працоўнае сялянства, пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, ад сахі, ад раздробленай аднаасобнай гаспадаркі да буйных калгасаў з механізаванай гаспадаркай.

Таварышы, у радзе сельсоветаў і калгасаў у нас нават і самае слова аднаасобнік пачынае адыходзіць у мінулае. Вось вам жыццёвы прыклад. У калгасе «Барацьбіт», Талачынскага раёна, у адной калгаснай хаце сабраліся калгаснікі і калгасніцы і сталі ўспамінаць стары час, калі не было калгасаў жылі аднаасобна. І вось адзін 8-гадовы хлопчык пытае: «А дзе-ж вы раней хлеб бралі,

калі не было калгасаў?» Нашы дзеці ўжо не ўяўляюць сабе аднаасобнай гаспадаркі.

У апошнія гады па раёну выраслі ўсе галіны сельскай гаспадаркі. Стада буйнай рагатай жывёлы павялічылася на 58 проц., свіней на 45 проц., авец на 79 проц. Кожны калгасны двор мае авечак, свіней, птушак. Мы некалькі адсталі па ліквідацыі ў раёне бескароўнасці, але гэтая справа выпраўлена і да 1 студзеня бескароўныя калгаснікі будуць мець каровы.

Вырасла ўраджайнасць калгасных палёў. Нягледзячы на тое, што ў гэтым годзе былі неспрыяючыя кліматычныя ўмовы, дзякуючы перавазе калгаснага ладу, дзякуючы той велізарнейшай барацьбе, якую правялі калгаснікі і калгасніцы за паднящчэ ўраджайнасці соцыялістычных палёў, мы ў гэтым годзе маем ураджай не горшы мінулага году, а вынікі гаспадарчага году нават лепшыя.

Павялічыўся даход працадня, перадавыя калгасы нашага раёна (а іх значная колькасць) «Пабеда», імя Галадзеда, «Праўда», «Ударнік» і дзесяткі іншых выдаюць на працадзень па 2—2,5 кгр. збожжа, па 10—18 кгр. бульбы, па 1 р. 50 к. — 2 руб. грашыма.

Калгасны лад, новая соцыялістычная тэхніка сельскай гаспадаркі выхавала кадры стаханаўцаў—перадавых людзей, якія авалодалі тэхнікай вытворчасці і рухаюць яе ўперад. Трактарыст тав. **Сарачынскі,** які прысутнічае на з'ездзе ў якасці дэлегата, даў 1207 га выпрацоўкі на трактар ХТЗ. За ім ідуць т. т. Рабцаў, Салаўёў і дзесяткі іншых трактарыстаў МТС і соўгасаў.

Брыгады т. т. Ткачэнка, Палатка Надзі і іншых дабіліся ў гэтым годзе значнага павышэння ўраджаю—17—20 цэнт. зернавых з гектара.

Жанчына ў калгасе стала рашаючай сілай і паказала свае сілы і здольнасці. У нашым ільнаводным раёне калгасніцы-стаханаўкі і ўдарніцы з'яўляюцца рашаючай сілай у калгасах. Стаханавак жанчын у раёне больш як стаханаўцаў мужчын. Стаханаўка тав. **Палякова** Зіна—ініцыятар барацьбы за высокі ўраджай, за рэкорды па тропцы ільна ўдзельнічала на Ўсебеларускім злёце стаханаўцаў. Тав. **Машкарова** Наста змагла за адзін год вывесці свой калгас у перадавыя. Калгас свой план ільнозагатовак перавыканаў у паўтара разы, здаўшы ільноваланно № 20. Тав. Мажэйка Паша атрымала ўраджай да 12 цэнтнераў ільносемя з кожнага гектара, засеянага селекцыйным насеннем. Даярка тав. Влашэвіч Ганна—дабілася ў сярэднім з кожнай каровы 3,5 тыс. літраў малака і да 5 тыс. літраў на рэкордную карову.

Шматдзетным мацерам у Талачынскім раёне ўжо выдана 236 тыс. руб. дзяржаўнай дапамогі. Гэта адзін з многіх прыкладаў сталінскіх клопат аб чалавеку, аб жанчыне.

Да рэволюцыі ў Талачынскім раёне было толькі 6 школ, у

якіх вучылася некалькі сот дзяцей. Цяпер у раёне 106 школ, у якіх вучыцца 14 тыс. дзяцей. 2,5 млн. руб. расходуецца па раённаму бюджэту на асвету.

Я вам прывяду лічбы, якія яскрава характарызуюць запісанае ў сталінскай Канстытуцыі права на асвету. Па далёка няпоўнаму падліку наша калгасная вёска Талачынскага раёна дала краіне 37 урачоў, 128 камандзіраў Рабоча-сялянскай Чырвонай арміі, 44 інжынераў, 250 настаўнікаў, дзесяткі аграномаў і дзесяткі адказных работнікаў—кіраўнікоў розных раённых устаноў. У вышэйшых навучальных установах і тэхнікумах вучыцца 400 чалавек.

Калгас «Новае жыццё» даў краіне двух урачоў, 6 інжынераў, 3-х аграномаў, 2-х камандзіраў Чырвонай арміі і 8 чалавек вучыцца ў вышэйшых навучальных установах. Што гэта за людзі? **Лежнеўскі**—у мінулым пастух, а цяпер інжынер, **Бялінскі**—сын калгасніка, цяпер лейтэнант—лётчык, **Сіняк**—сын бедняка, цяпер палкоўнік. Вось што дала совецкая ўлада нашаму народу. На прыкладзе Талачынскага раёна мы бачым, як вяліка сіла калгаснага ладу, як вяліка сіла ленінска-сталінскай палітыкі, як вяліка сіла кіраўніцтва нашай комуністычнай партыі.

Калі адбываўся XI Усебеларускі З'езд Советаў, Талачынскі раён быў у ліку адстаючых раёнаў, займаў апошняе мейсца ў Рэспубліцы. Цэнтральны камітэт нашай партыі, беларускі ўрад неаднаразова ўказваў нам на гэта. Да XII Усебеларускага З'езда Советаў Талачынскі раён прышоў з нядрэннымі паказчыкамі па выкананню гаспадарча-палітычных кампаній. Да 4 лістапада—раён выканаў план закупак хлеба, да 14 лістапада—выканаў план кантрактацыі ільну, лён здан замест № 10 у сярэднім № 11, а траста замест 1,32—1,65.

Гэтыя поспехі дасягнуты пад непасрэдным кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б і яе кіраўніка ордэнаносца Нікалая Фёдаравіча **Гікало** (а п л а д ы с м е н т ы).

Гэтыя поспехі атрыманы пад кіраўніцтвам і пры прамой дапамозе Талачынскаму раёну з боку ўрада БССР і яго кіраўніка ордэнаносца Нікалая Мацвеевіча **Галадзеда** і Ўсебеларускага старасты Александра Грыгоравіча **Чэрвякова** (а п л а д ы с м е н т ы).

Таварышы, раённы з'езд советаў Талачынскага раёна даручыў мне запэўніць Усебеларускі З'езд Советаў—гаспадара Беларусі, што мы ні ў якім разе не думаем зазнавацца, што мы лічым нашы дасягненні, нашы поспехі толькі пачаткам, Талачынскі раён на аснове ажыццяўлення сталінскай Канстытуцыі, разгортвання сапраўднай совецкай дэмакратыі, разгортвання масавай работы советаў, прыцягнення да кіраўніцтва советаў шырокіх мас працоўных і далейшага разгортвання стаханаўскага руху, пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б і ўрада БССР заваяваны пераходны сцяг і ў далейшым утрымае за сабой (а п л а д ы с м е н т ы).

(**Чэрвякоў**. «Правільна»).

**Конікаў.** Няхай жыве Совецкая Беларусь!

Няхай жыве Комуністычная партыя Беларусі і яе кіраўнік Нікалай Фёдаравіч **Гікало!** (п р а ц я г л ы я а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве ўрад БССР і яго кіраўнікі т. т. **Галадзед** і **Чэрвякоў!** (а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве ВКП(б) і яе правадыр, арганізатар соцыялістычных перамог, вялікі родны **Сталін!** (Г у ч н ы я а п л а д ы с м е н т ы).

**Пушчын** (старшыня). Слова мае тав. Цэлікаў.

**Цэлікаў** (старшыня калгаса «Чырвоны гай» Рагачоўскага раёна). Таварышы, на З'ездзе Советаў мы абмяркоўваем праект сталінскай Канстытуцыі. Што могуць сказаць аб Канстытуцыі з гэтай трыбуны калгаснікі? Шчырае дзякуй і яшчэ раз дзякуй нашаму роднаму **Сталіну** за шчаслівае, вясёлае жыццё.

Учора мы былі ў доме Чырвонай арміі. Усе мы радаваліся за нашу родную Чырвоную армію. Светлыя залы, бібліятэкі, кабінеты, прыгожы басейн, які здзівіў нас учора,—усё гэта дае магчымасць нашаму камандзіру і байцу Чырвонай арміі добра адпачываць і вучыцца. Салдат царскай арміі не мог нават марыць аб тым, што цяпер мае наша Чырвоная армія.

Мы, калгаснікі, запэўняем партыю і ўрад, што па першаму закліку пойдзем разам з Чырвонай арміяй на абарону нашай радзімы. Яшчэ вышэй падымем ураджайнасць нашых палёў, каб наша краіна мела шмат хлеба і жывёлы, усякага багацтва, была яшчэ больш магутнай.

Таварышы, мне вельмі хочацца, гэтага хочуць усе калгаснікі, каб калі не ў гэтым годзе, дык у 1937 годзе калгаснікі Беларусі маглі-б убачыць нашага любімага, раднага **Сталіна** на гэтай трыбуне (г у ч н ы я а п л а д ы с м е н т ы). Гэта будзе выключна радасны шчаслівы дзень у жыцці кожнага з нас.

Таварышы, я меў шчасце ў сакавіку гэтага года бачыць нашага вялікага, дарагога таварыша **Сталіна** (п р а ц я г л ы я а п л а д ы с м е н т ы). Я быў на Ўсесаюзнай нарадзе перадавікоў па ільну і каноплях.

На нарадзе ў Маскве выступалі нашы льно-трапальшчыцы, **Кірмашук** Антаніна сказала таварышу **Сталіну,** што «я хацела бачыць вялікага **Сталіна** і пагэтаму натрапала 116 кгр. ільновалакна». Таварыш **Сталін** уважліва выслухаў нас і цікавіўся нашымі дасягненнямі. Мы далі слова яшчэ больш падняць ураджайнасць ільна на нашых калгасных палях. Я абяцаў вялікаму **Сталіну,** што ў 1936 годзе даб'юся 5 цнт. льно-валакна з гектара. Запэўняю з'езд з гэтай трыбуны, што я сваё слова выканаў (а п л а д ы с м е н т ы). З 40 гектараў атрымаў ураджай па 5 цнт. ільновалакна. Таварышы, мы, калгаснікі, ведаем, што працуем самі на сябе.

Мы атрымалі зямлю, аб якой марылі нашы дзяды і бацькі. Наш калгас атрымаў у вечнае карыстанне 1500 гектараў зямлі.

Гэта наша родная зямля і мы будзем змагацца за падняццё ўраджаю—за 7—8 мільярдаў пудоў хлеба.

У нашым Рагачоўскім раёне будуецца вялікі гігант—малочнакансервавы завод. Калгаснікі раёна абавязаліся дабіцца самых высокіх удояў малака для таго, каб гэты завод забяспечыць малаком. На сёнешні дзень у калгасе «Чырвоны гай» сярэдні ўдой каровы складае 1500 літраў. Ёсць рэкардысткі каровы, якія даюць па 4.000 літраў малака. А ў мінулым годзе сярэдні ўдой каровы нашага калгаса быў 1100 літраў. Мы з кожным годам расцем і будзем расці.

Таварышы, хочацца вельмі шмат гаварыць аб тым шчаслівым радасным жыцці, якое мы маем на сёнешні дзень.

Няхай жыве наш урад на чале з т. т. **Галадзедам** і **Чэрвяковым!** (а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве Цэнтральны камітэт Комуністычнай партыі (большэвікоў) Беларусі на чале з тав. **Гікало!** (Г у ч н ы я а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве наш Совецкі Саюз!

Няхай жыве Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай Комуністычнай партыі большэвікоў і яе кіраўнік вялікі, мудры, наш родны **Сталін!** (П р а ц я г л ы я а п л а д ы с м е н т ы).

**Пушчын** (старшыня). Слова мае тав. Гурыновіч.

**Гурыновіч** (старшыня калгаса «Ленінскі шлях» Бягомльскага раёна). Таварышы дэлегаты Надзвычайнага XII Усебеларускага З'езда Советаў, дазвольце перадаць Вам гарачае большэвіцкае прывітанне ад калгаснікаў Бягомльскага раёна (а п л а д ы с м е н т ы).

Мы сёння сабраліся на З'езд Советаў для таго, каб падвесці вынікі абгаварэння праекта новай сталінскай Канстытуцыі, якую нам даў любімы правадыр народу, мудры будаўнік соцыялізма **Сталін!** (А п л а д ы с м е н т ы).

Па праекту новай Канстытуцыі нам даецца многа правоў, нам дана права на працу, на адпачынак, на асвету. Гэта сведчыць аб велізарнейшых клопатах аб чалавеку партыі і ўрада і нашага лепшага ленінца—правадыра народаў таварыша **Сталіна** (а п л а д ы с м е н т ы).

Таварышы, цяпер я хачу далажыць З'езду Советаў аб рабоце калгаса, у якім я з'яўляюся старшынёю.

Калгас «Ленінскі шлях» арганізаваўся ў 1930 годзе, але класавыя ворагі яго развалілі. Былі знішчаны коні і рагатая жывёла. Мне давялося прыняць калгас у разбураным становішчы. Працую я старшынёй калгаса 2 гады. Спачатку на 64 гаспадаркі было толькі 30 коней, 4 каровы і 28 штук маладняка. Цяпер наш калгас значна вырас і ўзмацніўся. У калгасе 86 гаспадарак. Маем 64 коней, 30 рабочых быкоў, 102 каровы, 55 авечак, 54 свіней.

Калгас датэрмінова справіўся з усімі гаспадарча-палітычнымі кампаніямі і рапартаваў аб сваіх поспехах VIII раённаму з'езду советаў. Па лесавывазках калгаснікі за мінулую зіму вырубілі і вывезлі 1 600 куб. метраў лесу, дарожнае будаўніцтва выканана

да 10 чэрвеня, па мабілізацыі сродкаў, як па абавязковых, так і па добравольных плацежах, калгасы і калгаснікі разлічыліся поўнасцю.

Я запэўняю наш урад, што мы яшчэ будзем лепш працаваць, яшчэ будзем больш змагацца за павышэнне ўраджайнасці, за 7—8 мільярдаў пудоў хлеба. Наш калгас знаходзіцца на граніцы з панскай Польшчай. Мы будзем яшчэ больш узмацняць наша вясёлае, заможнае і культурнае жыццё, будзем павышаць яшчэ больш сваю класавую пільнасць, будзем цесна звязаны з нашай пагранічнай заставай, будзем заўсёды дапамагаць нашым гераічным пагранічнікам ахоўваць нашу краіну, заваёвы Кастрычніцкай Рэволюцыі. Зробім наш калгас узорным, няхай глядзіць загніваючы капіталізм як растуць, мацнеюць і квітнеюць нашы калгасы, няхай глядзіць наколькі магутна наша Савецкая краіна.

Няхай жыве наша вялікая непераможная Комуністычная партыя большэвікоў!

Няхай жыве наша Чырвоная армія!

Няхай жыве наш першы маршал Совецкага Саюза тав. **Варашылаў!** (а п л а д ы с м е н т ы).

**Пушчын** (старшыня). Слова мае тав. Працько.

**Працько** (галоўны кандуктар Асіпавіцкага чыгуначнага вузла). Таварышы, дазвольце перадаць Надзвычайнаму XII Усебеларускаму З'езду Советаў гарачае прывітанне ад рабочых і служачых Асіпавіцкага чыгуначнага вузла (а п л а д ы с м е н т ы).

Я хачу расказаць як раней працавалі і жылі чыгуначнікі. Бацька мой працаваў 18 гадоў на транспарце. Сям'я яго складалася з 11 душ, а зарабляў ён 12 руб. у месяц. Гэтых сродкаў далёка не хапала для пражыцця.

Паступіў я на чыгунку ў 1897 годзе. Пры царызме я жыў таксама як і жыла сям'я майго бацькі. Пры Совецкай уладзе я з стрэлачніка набыў кваліфікацыю кандуктара і ў сучасны момант працую галоўным кандуктарам. За работу па-стаханаўскі мяне ўзнагарадзілі ганаровым значком чыгуначніка (а п л а д ы с м е н т ы).

Мая сям'я складаецца з 9 душ. Дзякуючы нашай Совецкай Уладзе, ўсе мае дзеці атрымалі сярэднюю асвету ў совецкай школе. Сын мой служыць у Чырвонай арміі ў г. Полацку, ён скончыў школу лейтэнантаў. Другі сын скончыў судабудаўнічую школу і служыць інспектарам. Старшая дачка працуе ў Асіпавічах памочнікам санітарнага ўрача, другая дачка працуе нарміроўшчыцай. Трэці сын машыніст у Асіпавічах. Яшчэ адна дачка ў Ленінградзе працуе на пошце. Усе яны жывуць добра, дзякуючы нашай Совецкай ўладзе.

Няхай жыве наш любімы правадыр і родны наш бацька таварыш **Сталін!**

Няхай жыве наш жалезны нарком Лазар Майсеевіч **Кагановіч!**

Няхай жыве першы маршал Совецкага Саюза Клім Ефрэмавіч **Варашылаў!**

Няхай жыве тав. **Чэрвякоў!**

Няхай жыве тав. **Галадзед!**

Няхай жыве Комуністычная партыя большэвікоў Беларусі і яе кіраўнік тав. **Гікало!** (а п л а д ы с м е н т ы).

**Пушчын** (старшыня). Слова мае Старшы лейтэнант N казацкага палка—ордэнаносец т. Хасцаеў (а п л а д ы с м е н т ы).

**Хасцаеў.** Таварышы! На тэрыторыі ордэнаноснай Совецкай Беларусі знаходзіцца гістарычны конны сталінскі корпус. Гэты корпус складаецца з конных дывізій, якія ў перыяд грамадзянскай вайны пакрылі сябе славай у барацьбе рабочага класа і працоўнага сялянства з чорнымі сіламі рэакцыі (а п л а д ы с м е н т ы).

Дазвольце мне ад імя сталінскага корпуса, ад імя казакаў Дона, Тэрэка, Кубані перадаць выдатным людзям Надзвычайнага XII Усебеларускага З'езда Советаў наша большэвіцкае казацкае прывітанне (а п л а д ы с м е н т ы).

Мінула 19 гадоў і за гэты невялікі адрэзак часу рабочы клас і сялянства ордэнаноснай Совецкай Беларусі, як і ўсяго Совецкага Саюза, пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі Леніна—Сталіна, дабіліся такіх рэзультатаў, аб якіх раней чалавецтва магло толькі марыць.

Наша краіна вялікая і моцная, моцная і непераможная наша родная слаўная Чырвоная армія (а п л а д ы с м е н т ы).

Наша Чырвоная армія расла такімі тэмпамі, якімі расла ўся наша краіна. Цяпер наша Чырвоная армія мае такія самалёты, якія лятаюць лепш усіх, вышэй усіх і далей усіх (а п л а д ы с м е н т ы). Наша Чырвоная армія мае такіх танкістаў і такія танкі, якія лепш усіх узброены, якія будуць страляць у галаву класавага ворага лепш усіх і мятчэй усіх (а п л а д ы с м е н т ы). Чырвоная армія мае такую конніцу, якая, калі будзе патрэбна біць ворага, зможа зрабіць не менш складаныя пераходы, як яна рабіла пад кіраўніцтвам **Леніна,** пад кіраўніцтвам **Сталіна,** пад кіраўніцтвам першага маршала Совецкага Саюза тав. **Варашылава** і легендарнага героя Сямёна Міхайлавіча **Будзённага** ў час грамадзянскай вайны (а п л а д ы с м е н т ы).

Наша Чырвоная армія мае добра падрыхтаваных, культурных камандзіраў, добра граматных чырвонаармейцаў, казакаў, якія аўладалі тэхнікай сваёй справы. Гэта паказалі манеўры 1936 г., калі пры такой колькасці танкаў і самалётаў, якія прымалі ўдзел у манеўрах не было ні адной аварыі. Чырвоная армія мае выдатных казакаў, чырвонаармейцаў, танкістаў, пілотаў.

Фашысты—Гітлер, Мусаліні і кампанія даўно задуманы імі план пачынаюць ужо праводзіць у жыццё. Пачалі яны праводзіць яго ў жыццё знішчэннем іспанскага народу. Але няхай Гітлеры і Мусаліні запомняць, што калі яны сваю чорную справу паспрабуюць ажыццявіць на нашай краіне, то казакі Дона, Тэрэка, Кубані і ўся наша Чырвоная армія, уся Чырвоная конніца, пад кіраўніцтвам легендарных герояў, якія знаходзяцца тут у зале— камандзіра корпуса тав. **Гарачова,** памочніка камандуючага вайскамі—Камкора **Апанасенка** (а п л а д ы с м е н т ы), маршала

Совецкага Саюза Сямёна Міхайлавіча **Будзённага,** знясуць голавы панам Гітлерам і Мусаліні (а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве Надзвычайны XII Усебеларускі З'езд Советаў!

Няхай жывуць знатныя людзі і кіраўнікі БССР т. т. **Гікало, Чэрвякоў** і **Галадзед!** (Б у р н ы я а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай расце і мацнее наша квітнеючая Беларусь разам з усёй нашай прыгожай радзімай! (А п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве доўгія годы наш настаўнік, наш бацька, наш друг, які натхняе ўсіх нас, які заве ўсіх нас наперад да новых перамог, да шчаслівага і радаснага жыцця, наш вялікі **Сталін!** (Б у р н ы я а п л а д ы с м е н т ы).

(Воклічы з Прэзідыума: «Няхай жыве чырвонае казацтва! Ура!» Па ўсяму залу грыміць магутнае ура!)

(Воклічы з зала: «Няхай жывуць непераможныя чырвоныя казакі! Ура!» (Б у р н ы я а п л а д ы с м е н т ы).

**Пушчын** (старшыня). Слова мае тав. Васіленка.

**Васіленка** (работніца фабрыкі «Герой Працы», Добруш).

Таварышы, ад імя трохтысячнай чырвонасцяжнай Добрушскай фабрыкі «Герой працы» дазвольце перадаць Надзвычайнаму XII Усебеларускаму З'езду Советаў, а таксама нашаму ўраду гарачае прывітанне (а п л а д ы с м е н т ы).

Таварышы, тут сабраліся ўсе знатныя людзі, самыя лепшыя стаханаўцы, каб абмеркаваць сталінскую Канстытуцыю, у якой запісана ўсё тое, што намі заваёвана.

Таварышы, новая Канстытуцыя гаворыць аб тых правах, якія мы з Вамі заваявалі—права на працу, права на адукацыю, права на адпачынак, роўнапраўе жанчын.

Таварышы, у старай Расіі жанчына была скована жалезнымі кайданамі па руках і нагах. Гэтыя кайданы толькі Кастрычніцкая Рэволюцыя скінула з жанчын. Таварышы, я працую на Добрушскай фабрыцы ўжо 40 год. Калі я паступіла на фабрыку, мне было 12 год. Што мы тады зараблялі. Мы атрымоўвалі ў месяц па 30 кап., ды і яны нам кроўю даставаліся. Калі мы крыху ўразумелі, у чым тут справа, каму аддаем сваю працу, тады мы, 4 дзяўчыны, рашылі папрасіць хоць-бы поўкапейкі дабавіць к нашай заработнай плаце. Які-ж мы атрымалі адказ? Нам сказалі: «калі вам мала гэтага, дык зусім выганім з фабрыкі». Пасля гэтага мы арганізавалі забастоўку. Што Вы думаеце было пасля гэтай маленькай забастоўкі? Нам, 4-м дзяўчынам, было забаронена не толькі працаваць на фабрыцы, але нават падыходзіць да яе.

Таварышы жанчыны, я больш звяртаюся да Вас: як мы жылі ў царскай Расіі? Я матка 7 дзяцей. Як я іх расціла? Не гледзячы на тое, што я мела малых дзяцей, мне прыходзілася працаваць 14 гадзін у дзень без адпачынку, пакідаючы дзяцей адных дома, без усякага догляду. А што я маю ў сучасны момант? Старшы сын працуе тэхнічным кіраўніком Кліноўскай тэкстыльнай фабрыкі, другі сын вучыцца слесарам, трэці ў Індустрыяльным

тэхнікуме на 3-м курсе, самы малодшы вучыцца ў 3-м класе сярэдняй школы, адна дачка скончыла ФЗУ і працуе старшым рольшчыкам, другая выучылася токарам, трэцяя вучыцца ў тэкстыльным тэхнікуме на 2-м курсе. Бачыце якім шчаслівым жыццём мы цяпер жывем! Калі параўнаць гэтыя гады з тымі, дык бачна, што толькі наша партыя, партыя большэвікоў, партыя Леніна—Сталіна павяла нас па шляху вызвалення ад гнёту капіталістаў (а п л а д ы с м е н т ы).

Таварышы, я пазнаёмлю Вас с ростам нашай фабрыкі. У 1913 г., пры Стуільскім, фабрыка выпрацоўвала 13 400 тон паперы, у 1928 г.—11.700 тон, у 1933—18.700, у 1936—31.700 (па плану было намечана 30.000, але мы свой план перавыканалі). Бачыце, які рост: каля трох раз больш, чым да рэволюцыі.

Чаму гэта, таварышы, так сталася? Гэта сталася дзякуючы таму, што нам стала жыць лепш, жыць весялей, а ад гэтага стала і работа спорыцца (а п л а д ы с м е н т ы).

Таму ў нас з'явіліся стаханаўцы. Зшывальшчыца сшыткаў па плану за 7 гадзін павінна зшываць 7000 сшыткаў, а тав. Старавойтаў зшывае 15.000, і якасць работы добрая. Сартыроўшчыкі паперы Мядзведзева і Мяжохіна выконваюць свой план на 140 проц., і якасць работы добрая.

За апошні год у нас пастаўлена 6-я моцная машына, пабудована турбіна, якая дае 300—500 кіловат электраэнергіі. Праектыруецца пабудаваць яшчэ адну турбіну. Ёсць электрастанцыя, якая асвятляе амаль увесь наш раён. Усё гэта кажа аб тым, што пад кіраўніцтвам нашай партыі расце прамысловасць і шырацца калгасныя палі.

Раскажу аб сваім жыцці. У стары час я мела маленькую халупку, а зараз у мяне ёсць вельмі прыгожы домік. Сям'я з 11 чалавек і няма таго дня, каб у нас не было мяса на абед, вячэру і снеданне. Да рэволюцыі я атрымоўвала ўсяго 32 руб. у месяц, а зараз каля 900 руб. (а п л а д ы с м е н т ы). Я маю карову і 2 парасят. Дзякуй таварышу Сталіну за нашае шчаслівае, радаснае жыццё, за тое, што нам стала жыць лепш!

Таварышы, мне 52 гады, але таму што цяпер жыць шчасліва і радасна, я адчуваю сябе маладой, мне здаецца, што мне толькі 20 год. Я хачу яшчэ і яшчэ жыць. Хачу яшчэ больш працаваць на карысць совецкай улады.

Спынюся на культурным росце горада Добруша. У царскі час у нас вуліцы былі брудныя, ні адзін рабочы не меў сваёй хаты, а цяпер мы маем 8 новых дамоў па 16 кватэр для рабочых, пабудавалі гасцініцу, лазню. Усё гэта гаворыць аб культурным росце нашага горада.

Перайду к падзеям у Іспаніі. Рабочыя і работніцы нашай фабрыкі штодзённа сочаць за ходам падзей у Іспаніі. Рабочыя і работніцы ведаюць, што там, дзе фашызм, там голад, там галеча. Рабочыя і работніцы добра памятаюць, за што змагаецца іспанскі народ. Нашы работніцы на мітынгах выступалі і гаварылі:

«Прашло ўжо 19 год з таго часу, калі мы былі ў такім жа становішчы, у якім зараз іспанскі народ.

Калі мы чыталі пісьмо работніц Трохгорнай мануфактуры, дык не было ні адной брыгады, ні аднаго рабочага і работніцы, якія-б не падтрымалі гэтага пісьма. Наша работніца Враменкова, у сваім выступленні на мітынгу сказала: «нам патрэбна дапамагаць іспанскаму народу прадуктамі і адзежай, каб перамагчы фашыстаў». Другая работніца сказала: «калі-б Іспанія была бліжэй, здаецца ўзяла бы вінтоўку і пашла-б абараняць іспанскі народ» (а п л а д ы с м е н т ы).

Аб Чырвонай арміі. З выступленняў казакаў на гэтым з'ездзе, з газет, якія мы чытаем, мы ведаем, наколькі моцна наша Чырвоная армія. Мы вайны не хочам, але ні адной пядзі сваёй зямлі нікому не аддадзім.

Па дарозе сюды на з'езд, я сустрэлася з адной былой работніцай тав. Шчэмеравай, якая зараз пенсіонерка. Яна ў мяне запытала, куды я еду. Я адказала, што еду на XII Усебеларускі з'езд Советаў. Тады яна папрасіла перадаць прывітанне з'езду і сказала: «Я пенсіонерка, але мне яшчэ хочацца дапамагчы будаваць соцыялізм, дрэнна, што мае вочы не бачаць. Дзякуй там Чырвонай арміі. У мяне адзін сын у Чырвонай арміі і ён не забывае мяне. Ён дапамагае мне грашыма. Ці памятуеш ты, Васіленка, як мы раней праводзілі сваіх мужэй і сыноў у царскую армію? Мы іх праводзілі як быццам на смерць, аплаківалі іх. А цяпер, калі наш родны сын, альбо брат ідзе ў Чырвоную армію, мы гэтым ганарымся».

Наша Чырвоная армія—наша гордасць.

У 1935 годзе на нашай фабрыцы налічвалася 115 чалавек непісьменных і малапісьменных. На сёнешні дзень мы ўсіх ахапілі вучобай, непісьменных у нас няма. Месяц таму назад мы выпусцілі 27 работніц, скончыўшых школу па ліквідацыі непісьменнасці.

Таварышы, нельга не сказаць слова і аб школах. У стары час мне таксама прышлося вучыцца, але ўсяго 2 зімы. Гэта не таму, што я больш вучыцца не жадала, а таму што нас не дапускалі да вучобы. Ды і як нас вучылі! Забівалі нам галовы законам божым. А цяпер. Цяпер дзяцей нашых вучаць усяму. Раней мы былі сляпымі, хаця і былі маладымі. А цяпер мы вельмі многае бачым і яшчэ больш убачым.

Таварышы, звярнуся зноў да сталінскай Канстытуцыі. Вельмі шмат абмяркоўвалі яе. Няма таго вугалка, дзе-б не абмяркоўвалі новай сталінскай Канстытуцыі. Вельмі добра, таварышы, зразумелі рабочыя гэтую Канстытуцыю і шмат унеслі каштоўных дадаткаў. Таварыш Аўраменка ўнёс такі дадатак: «хоць у мяне і адзін сын, але я-б хацеў, каб ён пашоў у Чырвоную армію». Бачыце, таварышы, як абмяркоўвалі новую Канстытуцыю.

Няхай жыве і мацнее наша магутная Чырвоная армія пад кі-

раўніцтвам першага маршала тав. **Варашылава!** (Працяжныя апладысменты).

Няхай мацнее наша Беларусь, у мінулым адсталая, а зараз перадавая!

Няхай жывуць ордэнаносцы т.т. **Гікало, Галадзед** і старшыня ЦВК тав. **Чэрвякоў!** (Працяжныя апладысменты).

Няхай жыве наш вялікі сусветны правадыр пролетарыята, настаўнік і бацька наш таварыш **Сталін!** (Працяжныя апладысменты).

Няхай тое сонца, якое ўзыйшло над Совецкім Саюзам, асвятляе ўвесь свет—гэта сонца наш родны таварыш **Сталін!** (Працяжныя апладысменты).

**Старшыня.** Слова мае тав. Каляда (старшыня сельсовета з Слуцкага раёна).

**Каляда.** Таварышы, перш за ўсё шчырая падзяка таму, хто стварыў светлае, радаснае, культурнае заможнае жыццё працоўным квітнеючай нашай Совецкай Беларусі, як і ўсім працоўным народам нашай неабсяжнай совецкай краіны,—другу нашаму, любімаму бацьку таварышу **Сталіну** (гучныя апладысменты).

У праекце сталінскай Канстытуцыі, які адобран усімі працоўнымі Совецкай Беларусі і працоўнымі ўсяго вялікага Совецкага Саюза, гаворыцца, што працоўныя маюць права на асвету. У якой гэта краіне магчыма, каб працоўныя вучыліся ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах. Гэта немагчыма ні ў адной капіталістычнай краіне. Працоўныя маюць права на асвету толькі ў Совецкім Саюзе.

Па нашаму сельсовету ў старыя часы была толькі адна школа, у якой не вучылі, а калечылі 20 дзяцей беднякоў і серадпякоў. Трое дзяцей кулакоў вучыліся ў горадзе. Вось, таварышы, малюнак мінулага вёскі.

Старая лапцюжная вёска больш нічога не бачыла і нічога не ведала акрамя царквы, акрамя рэлігійнага дурману.

Зараз па нашаму сельсовету вучыцца ў вышэйшых навучальных установах 153 чалавекі. На тэрыторыі сельсовета ёсць адна няпоўная сярэдняя школа і 3 пачатковых, у якіх вучыцца 614 школьнікаў.

Наша вёска, раней адсталая і забітая, зусім змяніла свой твар, на вузкіх сялянскіх палосках арганізавалася моцная, буйная социялістычная гаспадарка.

Наш сельсовет першым ў раёне выканаў план дарожнага будаўніцтва. Мы добра ўсвядомілі, якое значэнне маюць дарогі для гаспадаркі і абароны краіны. Дарогі патрэбна трымаць заўсёды ў парадку, каб у грозны час машыны нашай Чырвонай арміі маглі хутка пасняваць і метка біць ворага, які паспрабуе парушыць нашы граніцы.

Працоўныя нашага раёна, якія накіравалі нас на Ўсебеларускі З'езд Советаў, далі нам наказ—галасаваць за сталінскую Канстытуцыю, бо сталінская Канстытуцыя запісала тое, што завявана за 19 год існавання совецкай улады.

Няхай жывуць нашы лепшыя людзі—дэлегаты Надзвычайнага XII З'езда Советаў!

Няхай жыве лепшы сталінец—кіраўнік комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі таварыш **Гікало!** (Гучныя апладысменты).

Няхай жывуць кіраўнікі нашай квітнеючай Беларусі т. т. **Чэрвякоў** і **Галадзед!** (Апладысменты).

Няхай жыве лепшы друг і бацька працоўных усяго свету таварыш **Сталін!** (Працяжныя апладысменты).

**Старшыня.** Слова мае тав. Бандарэнка—калгасніца-стаханаўка з Капаткевіцкага раёна.

**Бандарэнка.** Таварышы, я паслана ад калгаса «Чырвоны Араты» Капаткевіцкага раёна вітаць Усебеларускі З'езд Советаў (апладысменты).

Мы сабраліся сёння падагуліць абгаварэнне сталінскай Канстытуцыі, якая дае радаснае жыццё старому і маладому пакаленню.

Таварышы, як мы жылі да гэтага часу? Я з малых дзён працавала на кулакоў. У майго бацькі не было ні кавалачка зямлі.

Мой муж быў партызан, а я непартыйная большэвічка. Муж збіраў партызанскія групы і абараняў сваю вёску. Да мяне па 5 разоў на дзень прыходзілі палякі і пыталіся, дзе партызаны. Я паставіла сябе па-большэвіцку і не сказала. Яны мяне ў грудзі білі, прабаваў адзін вінтоўкай ударыць, але я стаяла як большэвік і нічога не сказала. Майго брата—партызана ўбілі. Маю хату спалілі.

Кулакі не давалі нам арганізаваць калгас. Яны рознымі спосабамі зрывалі нашы сходы. Мы прымушаны былі збірацца ўначы, каб абгаварыць, як арганізаваць калгас. Сярод арганізатараў нашага калгаса быў і мой муж.

Нам кулакі пагражалі, што не дадуць парушыць мяжы. Нават калі мы хадзілі па вёсцы, на нас выходзілі з тапарамі, коллямі, закідвалі вочы зямлёй, але мы на гэта не звярталі ўвагі, а цвёрда выконвалі тое заданне, якое даручыла нам партыя. Калгас быў арганізаваны. Мы касілі сенакос, які быў на папоўскай зямлі, а ўвосень засеялі ўсю папоўскую зямлю жытам.

Нам прыходзілася вербаваць новых членаў калгаса, пераконваць людзей, каб яны ішлі ў калгас, і да восені ў калгас запісалася 20 гаспадарак. А што мы маем зараз у калгасе? У нашым калгасе налічваецца 270 гаспадарак. Мы ў калгасе пабудавалі вялікі хлеў для жывёлы, канюшню, свінарнік, калодезь і лазню. Дзяржава дала нам аўтамашыну. Ёсць вялікі добры млын.

Мы звяртаемся да партыі і ўраду, каб дапамаглі нам асвятліць калгас лампачкай Ільіча, скарыстаць для гэтага маючыйся ў нас млын.

Я працую на полі, з'яўляюся стаханаўкай. Не гледзячы на тое, што ў мяне шэсць душ сям'і і мне 49 год, я сваю норму перавыконваю. Чаму? Таму, што люблю совецкую ўладу і нашых правадыроў, і імкнуся на кожнай рабоце выканаць і перавыканаць сваю норму.

Мы ў калгасе выканалі заданне, якое было даручана партыяй. Мы ў гэтым годзе працуем лепш. У мінулым годзе мы здалі лён нумарам 8 і 9, а ў гэтым годзе 14—15 нумарамі.

Няхай жыве Совецкі Саюз!

Няхай жывуць т.т. **Гікало, Галадзед, Чэрвякоў!** (Працяжныя апладысменты).

Няхай жыве комуністычная партыя, якая правільна вядзе нас па соцыялістычнаму шляху і дае добрае жыццё!

Няхай жыве таварыш **Сталін,** наш родны, любімы бацька, імя якога жыве ў нас у сэрцы, якога мы любім! (Бурныя апладысменты).

Няхай жывуць усе нашы правадыры! (Бурныя апладысменты).

**Старшыня.** Слова мае тав. Патапенка—старшыня перадавога калгаса, ордэнаносец з Глускага раёну.

**Патапенка.** Таварышы, дэлегаты Надзвычайнага XII Усебеларускага З'езда Советаў! Дазвольце Вам перадаць шчырае прывітанне ад стаханаўцаў і стаханавак Глускага раёна (апладысменты).

Таварышы, мы сёння сабраліся для абмеркавання і зацверджання сталінскай Канстытуцыі.

Я працую з 1929 году старшынёй калгаса. У 1931 годзе ўступіў у рады Ленінскай партыі. Гэта была шчаслівая падзея ў маім жыцці. Партыя Леніна—Сталіна выхавала мяне. Партыя штодзённа клапатліва вучыла і вучыць мяне, як трэба працаваць. 7 год я прапрацаваў старшынёй калгаса. Кіраўнік калгаса павінен хварэць душой за калгасную справу, за калгаснікаў, за выкананне тых задач, якія перад намі ставіць партыя. І гэта я добра зразумеў.

Таварышы, у гэтым годзе мне давялося пабываць у нашага любімага дарагога правадыра таварыша Сталіна на нарадзе ільнаводаў (апладысменты).

Зараз паглядзім, з якімі вынікамі наш калгас імя Сталіна падышоў к Надзвычайнаму XII Усебеларускаму з'езду Советаў. Вядома, што калі ў калгасе будзе працаваць толькі адзін старшыня, дык ён без дапамогі калгаснікаў адзін нічога зрабіць не зможа. Патрэбна арганізоўваць вакол сябе калгасную масу, лепшых стаханаўцаў на выкананне гаспадарча-палітычных кампаній. І толькі тады мы пад кіраўніцтвам партыі, пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна, які штодзённа вучыць нас, які штодзённа аб нас клапоціцца, зможам дабіцца поспехаў у нашай рабоце.

Я магу расказаць з'езду Советаў пра новых стаханаўцаў, вырасшых у нас. Раней мы мелі нязначны лік ударнікаў. У гэтым годзе ў нас 45 стаханаўцаў—галоўным чынам жанчын: **Гардзей** Ганна, **Жаўрына** Паша і інш.

Мы ведаем, што нам трэба сеяць добраякасным, чыстым, пратручаным насеннем. У веснавую пасеўную кампанію гэтага году нашы стаханаўцы і ўзялі на сябе такі абавязак. Мы дабіліся ў сярэднім 18 цэнтнераў ураджаю з гектара. Ураджай азімых 12 цэнтнераў з га, а ў мінулым годзе быў 7,7 цэнтнераў. Азімай

пшаніцы мы атрымалі ў гэтым годзе 18—20 цэнтнераў з га, а ў мінулым годзе толькі 6,40 цэнтнераў. Яравой пшаніцы—у мінулым годзе 10,9 цэнтнераў з га, у гэтым годзе 17 цэнтнераў, а на ўзорных участках 29 цэнтнераў. Аўсу—15 цэнтнераў з га, ільнанасення—6,17, а ў мінулым годзе 5,22 цэнтнера.

Павялічыліся рады стаханаўцаў. Калі ў часе веснавой сяўбы мы мелі толькі 12 стаханаўцаў, то зараз у нас 45 стаханаўцаў. У мінулым годзе наш калгас меў 108 галоў буйнай рагатай жывёлы, ў гэтым годзе 183.

У мінулым годзе мы мелі 77 свінаматак, у гэтым годзе 109. У мінулым годзе было 46 шт. маладняка, у гэтым годзе—70. План мясапаставак гэтага году перавыканан. Выканалі план малакопаставак. Акрамя гэтага прададзены дзяржаве 6.000 літраў малака.

Радасна, з уздымам прайшоў у нас продаж хлеба дзяржаве. Хлеб вывезен на месца. Мы прадалі дзяржаве 70 тон бульбы. Калгаснікі падпісаліся на 4.100 руб. на пазыку.

Вырасла вага калгаснага працадня. У гэтым годзе калгаснікі атрымоўваюць на працадзень тры кілаграмы збожжа, 10—12 кгр. бульбы.

Усё гэта гаворыць за тое, што мы працуем па-стаханаўску.

Гэтыя дасягненні мы атрымалі пад кіраўніцтвам партыі, пад кіраўніцтвам Ленінскага ЦК і любімага Сталіна.

Усе абавязацельствы, якія я ўзяў на сябе перад нашым любімым правадыром таварышом Сталіным я выконваю з гонарам.

Няхай жыве наш правадыр і любімы настаўнік таварыш **Сталін!** (А п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жывуць ордэнаносцы Беларусі таварышы **Гікало** і **Галадзед!** (А п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве тав. **Чэрвякоў!** (А п л а д ы с м е н т ы).

**Старшыня.** Слова мае ўпаўнаважаны Камісіі Савецкага Кантроля тав. Ціхон (а п л а д ы с м е н т ы).

**Ціхон.** Таварышы, Надзвычайны XII Ўсебеларускі з'езд Саветаў, абгаварваючы сталінскую Канстытуцыю, падводзіць вынікі той радасці, з якой беларускі народ сустрэў гэты сталінскі гістарычны дакумент. Ва ўсіх кутках Беларусі, гэты дакумент разглядваўся пункт за пунктам і не было ні аднаго чалавека, хто-б не адобрыў гэты дакумент. Канстытуцыя паказала нам тое жыццё, якое на працягу 19 год рабочы клас разам з сялянствам ішлі па шляху соцыялістычнага будаўніцтва пад кіраўніцтвам нашай Усесаюзнай Комуністычнай партыі і вялікага правадыра таварыша Сталіна (а п л а д ы с м е н т ы).

Таварышы, што гаварылі калгаснікі і калгасніцы на раённых з'ездах Саветаў? Стаханаўка Копыльскага раёна, звенневая калгаса імя Будзённага, Крывасельскага сельсовета, Антаніна Аляшкевіч заявіла: «наша звяно дабілася значных поспехаў у сваёй рабоце, лён мы апрацавалі і здаем 26 нумарам, узятыя на сябе абавязацельствы па павышэнню ўраджайнасці, мы выконваем і дабіліся ўраджаю зернавых 20 цэнтнераў з га, бульбы 500 цэнт-

нераў з га, лёну 10 цэнтнераў. Зараз рыхтуемся да веснавой пасеўнай кампаніі 1937 году».

Выступаўшая на з'ездзе стаханаўка калгаса «Чырвоны вартаўнік», Крывасельскага сельсовета, Федора Ромет заяўляла: «У гэтым годзе наш калгас змагаўся за выкананне лозунга таварыша Сталіна за 7—8 мільярдаў пудоў хлеба. Таварыш Сталін даў мне новае жыццё. Зараз уся наша моладзь вучыцца, усе жывуць багата. Атрымліваем 3 кгр. 600 грам збожжавых, 18 кгр. бульбы на працадзень. Дзякуй таварышу Сталіну за шчаслівае жыццё» (а п л а д ы с м е н т ы).

Вось, таварышы, асобныя выступленні калгасніц. Праходзіўшыя пленумы сельсоветаў паказалі, наколькі высока ўзнят сцяг Леніна—Сталіна ў разуменні задачы калгаснага будаўніцтва. Прыклад: пленум Лешнянскага сельсовета (старшыня сельсовета Віслоух) адбываўся ў будынку пракраснай школы, пабудаванай самімі калгаснікамі калгаса імя Ульянава. Калгас сустрэў пленум сельсовета выкананнем плана молако-і мясапаставак, хлебаздачы і т. д. К Кастрычніцкім святам калгас скончыў будаўніцтва новай лазні. Калгас мае яслі. Калгас з'яўляецца прыкладным. Таварыш Новік, старшыня гэтага калгаса, умела расстаўляе сілы, умела арганізуе калгасныя масы, і рэзультаты вы на гэтым прыкладзе бачылі.

Вось выступленне на гэтым-жа пленуме асобных калгасніц і калгаснікаў: Федасеева Анна з калгаса «Чырвоны пагранічнік» заявіла наступнае: «Горача адабраю сталінскую Канстытуцыю. Жыву добра. Калгас аказвае мне неабходную дапамогу. Майго хворага мужа лечыць бясплатна. Па пераапрацоўцы льну план перавыконваю».

Вось якія велізарныя рэзультаты відаць з выступленняў асобных калгаснікаў на пленумах сельсоветаў.

У гутарцы са стаханаўкай Кірштэня Надзеждай высвятлілася, што ў мінулым яна была батрачкай, не мела ніякай маёмасці, а зараз жыве добра. За 9 месяцаў 1936 года яна выпрацавала 585 працадзён, мае двух кароў, трох свіней і 7 парасят. На кватэры ў яе чыста і ўтульна. Гэта паказвае, наколькі нашы калгасніцы прасоўваюцца наперад да заможнага вясёлага жыцця.

Пленум Быстрыцкага сельсовета адбываўся на тэрыторыі калгаса «Перамога» пры электрычным асвятленні з калгаснай электрастанцыі. У залі клуба быў абразцовы парадак. Калгаснікі не курылі, уважліва слухалі даклад старшыні сельсовета тав. Рамаҥоўскай і другія выступленні. У калгасе ёсць гукавое кіно. Бачыце, наколькі калгас «Перамога» Быстрыцкага с/совета хутка ідзе наперад пры дапамозе комуністычнай партыі Беларусі і нашага ўрада.

Лампачка Ільіча асвятляе дамы калгаснікаў у трох вёсках на самай мяжы.

На гэтым-жа пленуме выступаўшыя калгаснікі-стаханаўцы адобрылі праект сталінскай Канстытуцыі. Горача дзякавала

тав. Сталіна калгасніца-стаханаўка з калгаса «Перамога» Тупіца Вера, выпрацаваўшая за 9 месяцаў 1936 г. 467 працадзён. Яна заявіла: «Ад усяго сэрца вітаю сталінскую Канстытуцыю, дзякуючы якой мы даб'емся яшчэ лепшага жыцця. Раней я была батрачкай у кулака, ён нада мной здзекваўся, а зараз жыву добра, забяспечана хлебам і ні ў чым не нуждаюся».

Другая калгасніца-стаханаўка гэтага-ж калгаса Барчэня выпрацавала 409 працадзён. Яна заявіла: «Жыццё ў нас стала добрае, я атрымала тону хлеба, а ў мяне яшчэ ёсць мінулагодні хлеб, якога хопіць да каляд, да 1-га студзеня 1937 г. Жыву шчаслівым радасным жыццём, аб якім раней не магла і марыць».

Вось заявы калгасніц, якія работаюць па-стаханаўску і жывуць заможным вясёлым жыццём. Выступаўшыя асобныя брыгадзіры, у прыватнасці старшыня калгаса «Красавік», расказвалі, з якімі дасягненнямі прышоў калгас «Красавік» к пленуму: на адзін працадзень калгаснікі атрымалі 1,5 клгр. збожжавых, 7 клгр. бульбы, 50 кап. грашыма і т. д. Калгасныя брыгады дабіліся высокага ўраджаю—19 цэнтнераў ячменю і 18 цэнтнераў аўса з гектара. Калгас прадаў дзяржаве 40 тон хлеба. К адкрыццю пленума сельсовета калгас быў цалкам электрыфікаван. Такіх прыкладаў можна было-б удзесяцерыць, а то і болей.

Копыльскі раён—адзін з перадавых раёнаў Беларусі. Гэта пагранічны раён, які ідзе хуткімі крокамі па шляху соцыялістычнага калгаснага будаўніцтва пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі Беларусі і Ўрада. Я, таварышы, хачу адзначыць некаторыя недахопы ў асобных сельсоветах таго-ж Копыльскага раёна.

Вось, Бабаўнянскі пагранічны сельсовет (старшыня Пархомчык). Пленум, склікаемы перад з'ездам, не састаяўся. Высвятлілася, што сельсовет зусім не праводзіць масавай работы, не вядзе работы з актывам, не ведае гэтага актыву. Таму пленум і быў сарваны. У гэтым жа сельсовеце ёсць асобныя калгасы, якія не прасоўваюцца наперад, а некаторыя нават цягнуцца назад.

Напрыклад, калгас «Красны Пуцілавец» (старшыня Сушынскі Іван). У 1935 годзе калгаснікі атрымалі на працадзень: збожжавых 400 грам, бульбы 3 клгр., агародніны—200 гр., фуражу—1400 гр. і 53 кап. грашыма. У 1936 годзе: збожжавых 650 гр., фуражу 700 гр., грашыма 35 кап. Бульбы калгаснікі гэтага калгаса ў гэтым годзе зусім не атрымліваюць, бо 30 проц. яе засталося на полі неўбранай. Гэта гаворыць аб тым, што ёсць калгасы, у якіх не праводзяць масавай работы, не змагаюцца за выкананне дырэктыў партыі і ўрада. У гэтым жа калгасе «Красны Пуцілавец» мы выкрылі вялікія патравы скатом азімых. Патравы былі і ў калгасе «Пагранічнік», а старшыня Пархомчанка з гэтым не змагаецца. Было прадстаўлена 33 акты, для таго, каб наказаць вінаватых у патравах, але ніхто наказаны не быў. Такіх старшынь, асабліва пры новай Канстытуцыі, зусім нельга цярпець. Задача заключаецца ў тым, каб раённыя арганізацыі ў

першую чаргу змаглі своечасова выкрыць недахопы і дапамагчы ліквідаваць іх.

Некалькі слоў аб Капыльскіх РВК і РК КП(б)Б. Трэба сказаць, што раён працуе нядрэнна, раён перадавы, але асобныя вучасткі адстаюць. За тое, што Бабаўнянскі сельсовет работае дрэнна—а сельсовет пагранічны—нясуць адказнасць і раённыя арганізацыі. Другі момант: недастаткова выдвігаюцца жанчыны. На раённым з'ездзе советаў выявілася наступнае: у раёне ёсць 108 калгасаў, а сярод іх старшынь толькі 4 жанчыны. Ёсць 17 сельсоветаў, а жанчын—старшынь толькі трое. Ясна, і раённыя арганізацыі гэта самі прызналі, гэта зусім нецярпімае з'явішча, бо ёсць цвёрдая дырэктыва партыі і ўрада выдвігаць на кіруючую работу нараўне з мужчынамі і жанчын. Жанчыны ўжо на практыцы паказалі сябе. Сельсоветы, дзе старшынямі жанчыны, з'яўляюцца перадавымі. Задача заключаецца ў тым, каб у далейшым усе недахопы, якія маюць месца, бязлітасна ўстараніць, задача заключаецца ў тым, каб шырока разгортваць крытыку і самакрытыку, дабівацца выканання пастаўленых задач, устараняць недахопы, боручыся за сахраненне грамадскай уласнасці.

Наступнае пытанне, на якое я хацеў звярнуць увагу, гэта вытворчасць шырпатрэба. Мы зараз ў Менску, на заводзе імя Молатава, правяралі, як выконваюцца планы, як змагаюцца за якасць прадукцыі гаспадарчыя, професіянальныя і партыйныя арганізацыі? Ускрыта многа недахопаў, выпускаецца многа браку. Завод імя Молатава выпускае да 20 проц. браку, а ён выпускае шырпатрэб—тую мэблю, якую купляюць калгаснікі. Наркамунугандаль гэтым як след не займаецца, не кантралюе рублём, не робіць рэкламацыі, і ўвесь брак ідзе на рынак. У Беларускай Рэспубліцы застаецца з усёй гэтай прадукцыі, якой выпрацоўваецца на 6 мільёнаў рублёў, прыкладна 10 проц., а мы не бачылі, каб Наркамунугандаль зрабіў хоць адну рэкламацыю. Гэта недапушчальна.

Стаханаўскі рух на заводзе імя Молатава ў зусім запушчаным становішчы. Добрасумленна працуюць стаханаўцы, але ім не дапамагаюць. Дырэктар завода і начальнікі цэхаў не ўзначалілі стаханаўскі рух. Улік стаханаўцаў вёўся фармальна, таму многія стаханаўцы не выконваюць норм і робяць многалікі брак. Стаханаўка Каскові 9-га лістапада мела прастой з-за няспраўнасці рэмня. Стаханавец Хамякоў мае частыя прастоі з-за нераспарадзіцельнасці майстра філейнага аддзялення, і т. д. Прыкладна 37 стаханаўцаў выканалі нормы толькі на 90 проц. Гэта гаворыць аб тым, што няма клопатаў каб сапраўды як след арганізаваць работу стаханаўцаў. Чым займаецца дырэктар? Тав. Блоцкі кожны дзень выдае, прыкладна, два загады. Ён піша загады, але не займаецца стаханаўскім рухам, не займаецца пытаннямі якасці прадукцыі і таму прадпрыемства дрэнна работае, дрэнна выконвае планы, таму высокі сабекошт і нізкая якасць.

Трэст таксама мер не прымае. Дырэктар трэста тав. Дварэцкі,

знаходзячыся побач з прадпрыемствам, не прыняў рашучых мер, каб навесці там парадак. Задача заключаецца ў тым, каб развіць тут партыйна-масавую работу і з усей сілай выкарчаваць тыя агіднасці, якія маюць месца на прадпрыемстве.

Я хацеў яшчэ сказаць некалькі слоў аб льнонарыхтоўках у Дубровенскім раёне (старшыня РВК тав. Асінскі). На 15 лістапада 1936 года план нарыхтовак льна выканан на 42 проц., замест 77 проц. Загатоўкі пянькі выкананы на 3 проц., насення каноплі на 34 замест 85 проц. урадавага задання. Зусім слаба кіруюць раённыя арганізацыі нарыхтоўкамі. Што мы бачым у асобных калгасах? У калгасе імя Кагановіча Мордашэвіцкага сельсовета (старшыня калгаса Пруднікаў) праступна адносіцца к захаванню ўраджая каноплі. Насенне каноплі з плошчы 3 га на 60 проц. з'едзены свіннямі і птушкамі з-за адсутнасці аховы. Выцерабленая каноплá валяецца, мокне і гніе. Машына сістэмы Антонава не работае таму, што сапсаваўся конны прывод. План здачы льнокультуры сарваны, на 15 лістапада здана 5 цэнтн. замест 95.

Такіх калгасаў ёсць некалькі. Есць дастатковая колькасць машын, але вытворчасць іх па апрацоўке ільну недапушчальна нізкая. Таму, трэба сказаць Дубровенскаму льняному раёну, што так работаць, як ён зараз работае, зусім недапушчальна. Яго работа павінна быць рашуча асуджана і кіраўнікі павінны панесці адказнасць за гэтыя агідныя адносіны к нарыхтоўкам ільну.

Такое-ж становішча ў Багушэўскім раёне. ЦК КП(б)Б і ўрад БССР прымаюць у гэтых адносінах моцныя меры. Мы павінны дабіцца ва што-б та ні стала выканання плана льнонарыхтовак.

Некалькі слоў аб будаўніцтве дзіцячых ўстаноў. Гэтае важнейшае рашэнне партыі і ўраду не ўсе зразумелі як след. У радзе акругоў і раёнаў у гэтай галіне работаюць зусім дрэнна: Полацкая акруга выканала план па будаўніцтву дзіцячых устаноў толькі на 27 проц. Задача заключаецца ў тым, каб будаўніцтва гэтых устаноў пасунуць наперад і дабіцца рэзультатаў такіх, як гэта патрабуе партыя.

Таварышы, я хачу застанавіць Вашу ўвагу на пытанні аб скаргах. Пленум Камісіі совецкага контроля, які адбыўся ў чэрвені месяцы гэтага году, вельмі моцна паставіў пытанне аб барацьбе з бюрократызмам, валакітай, аб рабоце з скаргамі. Яшчэ не рэдкі выпадкі, калі асобныя кіраўнікі совецкіх, гаспадарчых устаноў, не гледзячы на неаднаразовыя ўказанні тав. Сталіна аб тым, каб нашы кіраўнікі праяўлялі самыя клапатлівыя адносіны к работнікам «малым і вялікім», у якой бы галіне яны не работалі,—не ўсё зрабілі ў гэтай галіне. Камісія совецкага контролю вельмі моцна паставіла пытанне аб барацьбе з бюрократызмам і скрыўленнямі, якія маюць месца ў радзе ўстаноў. Камісія Совецкага контролю асобна ўказала на недапушчальнасць валакіты і фармальна-бюракратычных адносін к заявам і скаргам рабочых, чырвонаармейцаў і калгаснікаў, пры чым у адносінах калгаснікаў неабходна пасіліць барацьбу з няправільным выключэннем з кал-

гаса, так як гэтыя выключэнні дапускаюцца статутам сельгаспадарчай арцелі, толькі як крайняя мера пасля правядзення мер выхаваўчага і папераджальнага характара. А мы мелі выпадкі, калі выключаюць з калгаса, не праводзячы папярэдне ніякіх мер выхаваўчага і папераджальнага характара. Вось прыклад з скаргай Крыкала. Устаноўлена, што старшыня Цімкаўскага сельпо Копыльскага раёна тав. Запарожац парушыў законадаўства аб працы, няправільна звoліў Крыкала за адказ работаць цэлы месяц без выхадных дзён. За парушэнне законадаўства аб працы і няправільнае звальненне рабочага Крыкала старшыні Цімкаўскага сельпо Запарожцу аб'яўлена суровая вымова і прапанавана аднавіць рабочага Крыкала на ранейшай рабоце, аплаціўшы яму за вымушаны прагул. Такое рашэнне вынесла Камісія Совецкага кантролю. Мы і ў далейшым будзем весці барацьбу з такімі агіднасцямі, з такімі бюракратычнымі адносінамі да работнікаў, што маюць месца ў радзе ўстаноў.

Яшчэ адзін факт з цэнтральных устаноў. Настаўніца Ангеліна з Прапойскага раёна падала скаргу ў Наркамасветы аб непрадастаўленні ёй работы ў раёне. На працягу 2-х тыдняў Ангеліна не магла дабіцца вырашэння пытання ад начальніка школьнага упраўлення НКАсветы тав. Хэйфеца. Прышлося Камісіі совецкага кантролю ўмяшацца ў гэту справу і толькі тады скарга была разабрана. Хэйфец сурова пакараны. Але ўсё-ж я павінен сказаць, што Наркамасветы яшчэ не перабудаваў сваю работу, ён работае па апаратнаму, ніякай масавай работы не праводзіць. Характэрна, што рашэнне Пленума Камісіі Совецкага кантролю з чэрвеня месяца ў апараце Наркамасветы не было абгаворана. Няма крытыкі і самакрытыкі, а самакрытыку трэба развіваць для таго, каб выкарчаваць бюракратычныя язвы, якія раз'ядаюць у радзе звенняў совецкі апарат і тым самым параджаюць бяздушныя адносіны к скаргам працоўных.

Аб самакрытыцы тав. Сталін гаварыў наступнае:

> ... «Нельга паляпшаць нашы гаспадарчыя, прафсаюзныя і партыйныя арганізацыі, нельга рухаць уперад справу будаўніцтва соцыялізма... не развіваючы ва-ўсю крытыку і самакрытыку, не ставячы пад кантроль мас работу нашых арганізацый».

Вось з якой сілай паставіў тав. Сталін пытанне аб самакрытыцы. Нам трэба дабіцца, каб самакрытыка была развіта ва што-б та ні стала ва ўсіх нашых установах, калгасах, прадпрыемствах.

Нельга не застанавіцца на трацкісцка-зіноўеўскай бандзе. Гэтыя асіныя гнёзды банды яшчэ канчаткова не выкаранены. З газет мы бачым, што рэшткі гэтай банды на рудніках Кузбаса у Зах. Сібіры займаюцца такой жа бандыцкай работай, якой займалася гэтая банда і ў нашых цэнтрах. «Праўда» 20-га лістапада пісала наступнае:

«Ап'янёныя нянавісцю да рабочага класа Совецкай дзяржавы, яны—трацкісты-зіноўеўцы планамерна і сістэматычна разбуралі

шахтную гаспадарку, шахтны транспарт. Яны штучна зніжалі вуглездабычу, яны свядома атручвалі рабочых, намерана пускалі газы»...

Яны арганізавалі 23-га верасня выбух на рудніку: 12 лепшых гарнякоў, самаадданых работнікаў сталі ахвярай подлай банды фашыстаў. 14 рабочых цяжка паранены. Трацкіст Дробніс кіраваў бандай дыверсантаў, што паказаў на следстве адзін з падсудных (Наскоў). Дробніс—гэта-ж падцвердзіў: «Я растлумачыў яму (Наскову), што асноўная задача арганізацыі, якую ставяць трацкісты, выходзячы з дырэктыў Троцкага—гэта усяляк падрываць гаспадарчыя поспехі партыі ў краіне»...

Наша совецкае правасуддзе знішгожыць гэтых бандытаў.

Таварышы, я некалькі слоў хачу сказаць аб нашай Чырвонай Арміі. Наша Чырвоная Армія ахоўвае граніцы соцыялістычнай бацькаўшчыны.

Напомню словы тав. **Варашылава:**

> «Наша краіна—Краіна міру. Наша армія—абаронца і аплот міру не толькі ў нашай краіне, не толькі для нашай краіны, але яна гатова зрабіць усё для таго, каб мір быў забяспечан усяму свету... Але, калі хто паспрабуе на нашу краіну напасці і прымусіць нашых рабочых і работніц, калгаснікаў і калгасніц, нашу інтэлігенцыю, усю нашу краіну замест мірнай работы па пабудове вялікага прэкраснага будынку соцыялізма, узяцца за зброю... мы не толькі не пусцім ворага ў прэдзелы нашай радзімы, але будзем яго біць на той тэрыторыі, адкуль ён прышоў...» (а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай ведае вораг, што калі ён паспрабуе, дзе бы та ні была уступіць на нашу зямлю, наша Чырвоная Армія, нашы чэкісты яго знішгожаць, будзе яго біць там, адкуль ён прышоў. Таварышы, наша задача заключаецца ў тым, каб тут, у Беларусі, ахоўваць нашы межы. Нашы героі—чэкісты стаяць на варце нашых межаў, стаяць на пасту і глядзяць, каб вораг не перайшоў граніцы. Калгаснікі Совецкай Беларусі таксама павінны больш пільна сачыць, каб ні адзін вораг не прабраўся на нашу зямлю і не перашкаджаў нам будаваць наша соцыялістычнае радаснае жыццё.

Некалькі слоў наконт Канстытуцыі. У 3-цім пункце нашай Канстытуцыі сказана: «уся улада у СССР належыць працоўным горада і вёскі ў асобе советаў дэпутатаў працоўных». А ў Канстытуцыі Польскай рэспублікі сказана,—што ўся ўлада належыць прэзідэнту. «На чале дзяржавы стаіць прэзідэнт Рэспублікі, на ім ляжыць адказнасць перад богам і гісторыяй за лёс дзяржавы». Толькі перад богам і гісторыяй адказвае ў іх прэзідэнт.

У IV пункце Польскай канстытуцыі сказана, што прэзідэнт мае адзіную недзялімую дзяржаўную ўладу. Аб чым гэта гаворыць? Гэта гаворыць аб тым, што ў названай рэспубліке, гэта дыктатарская ўлада ў адзіных руках прэзідэнта.

Таварышы, наша Канстытуцыя, напісаная рукой тав. **Сталіна,** з'яўляецца самай дэмакратычнай сапраўднай Канстытуцыяй усіх нашых рабочых і калгаснікаў. Задача заключаецца ў тым, каб Канстытуцыю, як мага ляпей, па ўсім пунктам ажыццявіць ў практычным жыцці і тым самым замацаваць нашы заваёвы.

Аб Іспаніі. Рабочыя і сяляне Іспаніі зараз вядуць жорсткую барацьбу з фашыстамі. Напомню словы тав. Сталіна. У тэлеграме на імя Сакратара Компартыі Іспаніі Хозэ Діаса, тав. Сталін пісаў, што працоўныя Совецкага Саюза выконваюць толькі свой абавязак, аказваючы пасільную дапамогу рэволюцыйным масам Іспаніі. Яны ўяўляюць сабе, што вызваленне Іспаніі ад гнёту фашысцкіх рэакцыянераў—не ёсць прыватная справа іспанцаў, а агульная справа ўсяго перадавога і прагрэсіўнага чалавецтва. Гэтыя сталінскія словы добра ўясняюць нашым рабочым, калгаснікам, якія дапамагаюць харчаваннем жанчынам і дзецям змагаючыхся рабочых і сялян Іспаніі, значэнне барацьбы іспанскага народа. Наша задача заключаецца ў тым, каб яшчэ больш і больш дапамагаць рэволюцыйным барацьбітам Іспаніі да поўнай пабеды над фашызмам. Таварышы, няхай жа рабочыя і калгаснікі Беларусі будуць ў перадавых радах у справе дапамогі гераічным барацьбітам за справу вызвалення рабочых і сялян Іспаніі.

Таварышы, наша задача зараз заключаецца ў тым, каб найлепей ажыццявіць новую Канстытуцыю, гэты дакумент, напісаны рукой тав. Сталіна.

Наша задача заключаецца ў тым, каб пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі Беларусі, выпрабаванага кіраўніка яе тав. Гікало, а таксама беларускага Ўрада на чале з тт. Галадзедам і Чэрвяковым, ісці хутчэй наперад да вясёлага і заможнага жыцця.

Таварышы, задача заключаецца ў тым, каб пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэта Ўсесаюзнай Комуністычнай партыі і вялікага правадыра, роднага бацькі тав. Сталіна ісці наперад па шляху будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне.

Няхай жыве Ўсесаюзная Комуністычная партыя большэвікоў!

Няхай жыве вялікі **Сталін!** Ура, таварышы, наперад!

(Воклічы «ура», працяглыя апладысменты).

**Старшыня:** Слова мае праф. Маркаў.

Праф. **Маркаў.** Знатным людзям—дэлегатам Надзвычайнага XII Усебеларускага З'езда Советаў, ад работнікаў навуковага фронту аховы здароўя—пламенны прывет (апладысменты).

Таварышы, збыліся векавыя мары прыгнечанага чалавецтва. У ва ўсіх на вуснах вогненныя словы сталінскай Канстытуцыі—гэтай велізарнейшай хартыі ажыццяўленага соцыялізма, дзе ўпершыню ў гісторыі свету запісаны правы кожнага грамадзяніна на свабодную працу, радасны адпачынак, права на адукацыю і забяспечаную старасць.

Абгаварваючы праект новай сталінскай Канстытуцыі, грамадзяне Совецкай Беларусі і ўсяго Совецкага Саюзу і мы, медыкі і навуковыя работнікі фронту аховы здароўя, першае сваё слова, свой сардэчны прывет шлем перш за ўсё таму, хто стаячы на чале Ленінскай партыі, прывёў краіну. праз усе цяжкасці, к соцыялістычнаму грамадству, стварыў новую Канстытуцыю—таварышу **Сталіну** (громкія апладысменты).

Таварышы, азірніцеся навокал—на зямлі, пад зямлёй, ў паветры, у вадзе, у горадзе і вёсцы, на заводах і фабрыках. на палях калгасаў і соўгасаў, у школах і лабараторыях—усюды кіпіць творчая сазідальная работа, куюцца новыя і новыя перамогі соцыялістычнай індустрыі, соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, соцыялістычнай навукі, тэхнікі і мастацтва.

Таварышы, наш гістарычны з'езд супадае з другой юбілейнай датай—225-ці годдзем з дня нараджэння геніяльнага рускага вучонага—селяніна, прышэдшага пяшком у Маскву для вучобы галодным, да самай сваёй смерці матэрыяльна незабяспечанага—М. Ламаносава. Няўстанна, непахісна абараняў Ламаносаў навуку. Ён у ярасці ў барацьбе за прасоўванне навукі ў сваёй бацькаўшчыне літаральна кулакамі, фізічна, змагаўся з немцамі, запаўняўшымі тагочасную Пецярбургскую Акадэмію Навук, якія ў большасці сваёй былі авантурыстамі і прыхлябальнікамі.

Паслухайце, як яны даносяць на Ламаносава: «Прыходзіць ён у палату, дзе прафесары для канферэнцыі засядаюць і не прывітаўшы нікога і не скінуўшы капелюш, ідучы міма прафесарскага стала, астаноўлены быў і весьма непрылічным чынам абесчэсціў іх і крайне паносны знак (кукіш)... супроць іх зрабіў і панасіў ён прафесараў, называючы іх плутамі і другімі сквернымі словамі, каторыя і пісаць немагчыма».

З сапраўдным паэтычным натхненнем малюе Ламаносаў невымеральныя прасторы тагочаснай Расіі і прыродныя багацці. Іх трэба выкарыстаць і гэта будзе зроблена, калі мы будзем мець «уласных Платонаў і быстрых розумам, Нефтонаў». Збыліся яго мары. У нас ёсць новая совецкая ўласная інтэлігенцыя.

Тысячы і тысячы сыноў народу, партыйных і непартыйных большэвікоў змагаюцца за пабудову бескласавага грамадства, згуртаваныя вакол Комуністычнае партыі, цалкам аддаюць свае веды і сілы і гатовы па першаму зову партыі і ўрада аддаць сваё жыццё на барацьбу з ворагамі соцыялістычнай радзімы. (апладысменты).

Мала таго, таварышы, мы з вамі з'яўляемся жывымі сведкамі нябачанага ў гісторыі з'явішча: нараджаецца новы чалавек, змяніліся адносіны да працы, выкоўваюцца ўсё больш і больш характэрныя рысы совецкіх людзей—мужнасць, смеласць і гераізм, благародства. Совецкія людзі жадна цягнуцца да ведаў. Расцвятаюць таленты. Культура ўнядраецца ўсё глыбей і глыбей ў быт, усё больш разгортваецца барацьба за поўнакроўнае здароўе працоўных.

Смертнасць у СССР, у параўнанні з 1913 годам знізілася на 44 проц. У БССР ў 1910 годзе смертнасць складае 21,1 на тысячу насельніцтва, у 1928 годзе—14,2 і ў 1935 годзе—13. Каб дабіцца такога каласальнага зніжэння смертнасці такім краінам, як Злучаныя Штаты і Францыя, патрабавалась больш 100 год.

Прырост насельніцтва ў СССР на многа раз вышэй, чым у капіталістычных краінах. У рэспубліцы Немцаў Паволжжа прырост насельніцтва на тысячу чалавек ў чатыры разы вышэй, чым у фашысцкай Германії. Усім вядомы сталінскія клопаты аб жывым чалавеку. Аб гэтым сведчыць важнейшы гістарычны дакумент аб барацьбе з абортамі і каласальнае будаўніцтва радзільных дамоў і ясель.

Нясметны поспехі культурнага будаўніцтва. Я пастараюся прывесці толькі некалькі лічбаў у разрэзе навукова-даследчай работы ў сістэме аховы здароўя БССР.

Да Рэвалюцыі ў гэтых адносінах было пустое мейсца, ноль.. Зараз мы маем 9 навукова-даследчых інстытутаў. Толькі ў адным Менску ёсць 7 навукова-даследчых інстытутаў, з колькасцю навуковых работнікаў да 200 чал. За 1935 год выканана каля 200 навуковых работ. Адзін беларускі медыцынскі Інстытут у сваёй навукова-даследчай рабоце абапіраецца на 44 кафедры і мае каля 3 тысяч студэнтаў. У якасці апорных баз ён мае такія ўстановы, як Клінічны гарадок і тэарэтычны корпус Універсітэцкага гарадка.

Мы маем у Менску 6 медыцынскіх навуковых таварыстваў і некалькі філіялаў на перыферыі. Цэлы рад нашых лабараторый, клінік, навукова-даследчых устаноў абсталяваны першакласнай апаратурай. Аб такіх прыборах, як мікрофотоапараты, хронаксіметры, адантометры біотокі і г. д. могуць толькі марыць цэлы рад навукова-даследчых устаноў Захада. Яно і немудрано. Што мы бачым зараз у фашысцкай Германії? Герой адной з драм сучаснай фашысцкай Германії Гонсэ Іостэ прама гаворыць: «калі я чую слова культура, я знімаю прадахраніцель з майго браунінга». Яно і не мудрано, калі ў фашысцкай Германії замест масла абяцаюць і даюць гарматы. Яно і натуральна, калі ў фашысцкай Германії лепшыя тварэнні лепшых мысліцелей спальваюцца на вогнішчах, а сусветныя вучоныя высылаюцца за прэдзелы фашысцкай Германії.

Таварышы, карыстаючыся гэтай высокай трыбунай, я не магу яшчэ і яшчэ раз ад імя навуковых медыцынскіх работнікаў не ўзняць свайго голасу пратэста і не заклейміць фашыстаў усіх краін, прымяняючых ў Іспаніі атручваючыя газы супроць жанчын і дзяцей, прымяняючых безчалавечныя і жорсткія метады супроць безабароннага насельніцтва Іспаніі, праяўляючых варварства і вандалізм у разбурэнні розных гістарычных музейных рэдкасцей і сакровішч.

Таварышы, цэлы рад нашых медыкаў Совецкай Беларусі за апошнія гады прымалі ўдзел у работах кангрэсаў фізіолагаў, фізіотэрапэўтаў, рэвматолагаў і г. д. Работы нашых беларускіх

вучоных медыкаў карыстаюцца прызнаннем не толькі за прэдзеламі Совецкага Саюза, але і далёка за мяжой. Узяць хаця-б пытанні пальпаталогіі, рыносклеромы, хронаксіметрыі і г. д. ў нашых навукова-даследчых установах асвайваюцца і прымяняюцца ўсё новыя і новыя метады лячэння. Зараз у фізіотэрапеўтычным Інстытуце асвоены, з пункту погляду навукова-даследчай, такія метады лячэння, як торфагразелячэнне. У прыватнасці, у Дыфоне праведзена больш 10 тыс. працэдур на хворых, пры чым рэзультат атрымліваецца ў бок палепшання і выздараўлення ў адносінах 87,8 проц. бальных. Такі процант упаўне канкуруе з праслаўленымі гразевымі курортамі.

Нашы навукова-даследчыя ўстановы асвоілі цэлы рад новых метадаў лячэння, як сера-вадародныя ванны—штучная мацэста, кароткія волны, парафіна-тэрапія і г. д. і г. д.

Таварышы, мы маем шчасце жыць у эпоху вялікіх замыслаў і спраў, у эпоху пабудовы бяскласавага грамадства, у вялікую сталінскую эпоху. Адным з велізарнейшых помнікаў гэтай эпохі будзе сталінская Канстытуцыя, у якой запісаны простыя, але поўныя глыбачайшай мудрасці і велізарнейшага сэнсу законы новага чалавечага грамадства, у якой навекі запечатлена гераічная барацьба працоўных за стварэнне новага жыцця і новага чалавека.

Звярынай нянавісці фашыстаў, якія распальваюць расавую, нацыянальную варожасць, капіталістычнаму прыгнечанню нацыянальнасцей, сцерылізуючай і сцерылізованай навуке, спальванню на пляцах стварэнняў лепшых умоў чалавецтва—супроцьстаіць у нас вялікая несакрушальная дружба народаў, знішташэнне эксплаатацыі, велізарнейшыя творчыя магчымасці і выключная ўвага к дастоінствам чалавека-грамадзяніна соцыялістычнай радзімы.

Няхай жыве совецкая навука на базе марксісцка-ленінска-сталінскай метадалогіі (а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай мацуецца і квітнее совецкая культура, нацыянальная па форме і соцыялістычная па зместу (а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жывуць стаханаўцы заводаў, фабрык, калгасных і соўгасных палёў, стаханаўцы навукова-даследчых лабараторый і габінетаў! (а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве ВКП(б) і наш правадыр таварыш **Сталін!**

Няхай жыве КП(б)Б на чале з таварышам **Гікало!** (а п л а д ы с м е н т ы).

**Старшыня.** Слова мае Начальнік пагранічнай заставы старшы лейтэнант **Майкоў** (а п л а д ы с м е н т ы).

**Майкоў.** Таварышы, я начальнік пагранічнай заставы аднаго з пагранічных атрадаў, які знаходзіцца на граніцы нашай ордэнаноснай Беларускай Совецкай Рэспублікі з капіталістычным светам, на чырвоным рубяжы.

Як мы, пагранічнікі, палітработнікі і камандзіры сустрэлі праект сталінскай Канстытуцыі? Праект сталінскай Канстытуцыі

ўсіх нас натхніў, узняў нашу бадзёрасць, наш дух, энергію, пільнасць у ахове дзяржаўных граніц, бо мы ведаем, што мы ахоўваем і ў нас ёсць што ахоўваць. Мы ахоўваем сталінскую Канстытуцыю, мы ахоўваем сталінскую нацыянальную палітыку, якая прывяла раней прыгнечаныя народы нашай вялікай краіны к свабоднаму, радаснаму, шчасліваму жыццю. Мы ахоўваем тых, хто быў нічым і хто стаў усім.

Мы абараняем і ахоўваем сталінскую палітыку індустрыялізацыі, якая ператварыла нашу неаб'ятную вялікую краіну—Совецкі Саюз з адсталай сялянскай краіны ў краіну перадавой магутнай тэхнікі.

Мы ахоўваем сталінскую палітыку калектывізацыі, якая зрабіла нашага тружэніка-калгасніка свабодным, радасным, шчаслівым. Нашы калгасы большэвіцкія, а калгаснікі заможныя.

Мы ахоўваем сталінскую палітыку міру. Мы вайны не хочам, але заўсёды гатовы ў любую мінуту, у любы час, па першаму кліку рабоча-сялянскага ўрада і партыі большэвікоў пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна стаць грудзьмі на абарону тых заваёў, якія атрымала наша краіна.

Я хачу тут на з'ездзе расказаць, што калі глядзіш на той бок мяжы, калі глядзіш на польскага салдата, дык мімамолі ставіш сабе пытанне: «бедны салдат, што ты ахоўваеш». Тут з трыбуны гаварылі, што мы саху даўно закінулі, а там селянін на драхлай клячы і яму недзе павярнуцца на вузкай палосцы. Мы неаднаразова бачылі, як там устаюць бедныя сяляне ў две гадзіны ў начы і цапамі абмалачваюць свае крохі, у той час, як у нас малацьбу выконваюць трактары, камбайны, жыццё квітнее (а п л а д ы с м е н т ы).

Там бедны селянін дабывае сабе агонь пры дапамозе крэмня, а ў нас запалілася лампачка Ільіча (а п л а д ы с м е н т ы).

Мне давялося наглядаць вельмі цікавы прыклад: на граніцы на польскім баку, у рэчцы Заходняя Дзвіна два хлопчыкі лавілі рыбу і чагосьці не паладзілі, пасварыліся паміж сабой. Адзін гаворыць:

— Я цябе пхіну так, што ты да большэвікоў паляціш.

— Ты мяне не запужаеш, я там сяду на трактар, альбо на камбайн, а ты тут застанешся пасвіць у пана кароў (а п л а д ы с м е н т ы).

Мы ганарымся тым, што нам партыя, совецкая ўлада даверылі такі адказны пост, мы будзем ахоўваць зорка, пільна.

Я хачу запэўніць ўсіх дэлегатаў, якіх мы тут абярэм і якія паедуць на Надзвычайны VIII Усесаюзны з'езд советаў для канчатковага ўмацавання сталінскай Канстытуцыі, што я, звярнуўшыся з гэтага з'езда раскажу сваім байцам, сваім камандырам, як свабодна народ Беларусі радуецца, жывучы шчаслівым жыццём, і я асабіста, са сваімі байцамі стану ў ганаровую сталін-

скую вахту (працяжныя апладысменты. Усе ўстаюць. Голас з месца—няхай жывуць чырвоныя пагранічнікі, ура!).

Няхай жыве наша комуністычная партыя большэвікоў на чале з таварышом Сталіным (апладысменты).

**Абвяшчаецца 10-мінутны перапынак.**

**Пасля перапынку)**

**Старшыня.** Прадаўжаем пасяджэнне. Слова мае старшыня калгаса Уздзенскага пагранічнага раёна тав. **Колас Раіна** (апладысменты).

**Колас.** Ад імя калгаснікаў—стаханаўцаў пагранічнага Уздзенскага раёна дазвольце перадаць Надзвычайнаму XII Усебеларускаму з'езду Советаў гарачае прывітанне. (Апладысменты).

Таварышы, мы абмеркавалі сталінскую Канстытуцыю. Мы дабіліся вялікіх поспехаў ў рабоце. Мы звыш плана здалі дзяржаве 22 цэнтнеры ільнавалакна і атрымалі прэмію ў 5700 рублёў. Усё ільноволакно наш калгас здаў 17 нумарам.

Я хачу расказаць на з'ездзе аб маім становішчы ў былой царскай Расіі. Засталася я сіратой трох год. Жыла ў памешчыка-генерала Ратынскага. Гадавалася ў яго разам з сабакамі на кухні і, калі я пакрыўджу сабаку, дык памешчык біў мяне палкай. Я ўшла ад яго да другога памешчыка Янушэвіча і там праслужыла два гады. Потым перайшла да памешчыка Бунгіна, у якога ў надта цяжкіх умовах праслужыла тры гады, а потым служыла ў князя Радзівіла.

Таварышы, цяжка было жыць у царскай Расіі, а зараз маіх дзяцей выхаваў Ленінскі комсамол. Сын мой вучыцца ў БДУ на гістарычным факультэце, другі скончыў ужо дзесяць класаў і мне хочацца каб ён быў у Чырвонай Арміі, дачка—16 год—вучыцца ў дзесяцігодцы—комсамолка.

Дзякую Леніну—Сталіну за шчаслівае наша жыццё (апладысменты). Шмат ёсць чаго расказаць, але мне цяжка ўсё ахапіць ад радасці.

Таварышы, нам трэба абараняць свае граніцы. Наш сельсовет хоць трохі далёкі ад граніцы, але мы таксама пільны, каб не прапусціць ворага. Не вельмі даўно мы затрымалі двух невядомых жанчын і прывялі іх у сельсовет, адкуль яны былі накіраваны ў міліцыю. Там высвятлілася, што гэта не жанчыны, а пераапранутыя мужчыны—дыверсанты, шпіёны.

Якую дапамогу мы аказваем пагранічнікам?

Мы ў мінулым годзе выгадавалі для пагранічнікаў вельмі добрых 6 коней і ў гэтым годзе таксама выгадавалі 5 коней. На будучы год мяркуем выгадаваць не менш 31 каня (апладысменты).

Таварышы, я буду вось аб чым прасіць з'езд советаў. Мы тут выступалі і гаварылі аб сваіх дасягненнях, аб сваёй рабоце, але і думаем, як жывуць работніцы ў Іспаніі. Мы павінны ім спачуваць не словамі, а на справе. У нашым Уздзенскім раёне

на з'ездзе советаў у карысць іспанскіх жанчын і дзяцей сабралі 450 руб. Я думаю, што і Усебеларускі з'езд советаў мяне падтрымае. Мы павінны арганізаваць збор у карысць іспанскім барацьбітам сярод дэлегатаў з'езда. Я ўношу ў фонд дапамогі гераічным барацьбітам Іспаніі 5 руб., можа хто-небудзь унясе і больш (а п л а д ы с м е н т ы). Гэтыя грошы павінны сабраць старшыні РВК.

За наша шчаслівае жыццё дзякую Леніну і нашаму роднаму бацьку—таварышу **Сталіну** (а п л а д ы с м е н т ы).

Выбачайце мяне, што я ўсяго не ахапіла, я толькі буду прасіць тав. **Чэрвякова** прыехаць да нас на пшанішныя бліны (а п л а д ы с м е н т ы).

**Старшыня.** Слова мае тав. **Падлужная** (Мсціслаўскі раён).

**Падлужная** (настаўніца Курманаўскай школы Мсціслаўскага раёна). Таварышы, ад імя працоўных Мсціслаўшчыны дазвольце перадаць дэлегатам Надзвычайнага XII Усебеларускага з'езда советаў шчырае прывітанне! (А п л а д ы с м е н т ы).

Дазвольце перадаць шчырае прывітанне нашым ордэнаносцам таварышам **Гікало і Галадзеду!**

Дазвольце перадаць шчырае прывітанне Іосіфу Вісарыёнавічу **Сталіну!** (А п л а д ы с м е н т ы).

У выдатнай сталінскай Канстытуцыі запісана, што ўсе грамадзяне Совецкага Саюза маюць права на асвету, маюць права на працу. Гэтае права дала нам Кастрычніцкая рэвалюцыя. Гэтае права працоўныя не мелі да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Асабліва былі прыгнечаны працоўныя былых нацыянальных акраін, як, напрыклад, наша Беларусь, якая ў мінулым была калоніяй царызма. Працоўныя Совецкай Беларусі нічога не ведалі, акрамя голаду, нішчаты і цемры. І толькі Кастрычніцкая рэвалюцыя прынесла вызваленне працоўным Совецкай Беларусі, прынесла вызваленне працоўным усіх нацыянальнасцей. Разам з гаспадарчым ростам вырас палітычны і культурны ўзровень совецкага народу. Пабудавана магутная сетка навучальных устаноў, чаго мы не мелі да Кастрычніцкай рэвалюцыі. У гэтых навучальных установах навучаюцца дзеці совецкага народу. З гэтых школ выходзяць героі—людзі сталінскай эпохі, якія робяць цуды. З педагагічна-навучальных устаноў выходзяць нашы совецкія педагогі, на якіх ускладзена вялікая задача—задача выхавання падрастаючага пакалення ў духе камунізма. Мы, совецкія настаўнікі, ганарымся гэтай ускладзенай на нас задачай.

У нашым Совецкім Саюзе настаўнік пастаўлен на такую вышыню, на якой ён не стаяў, не стаіць і не можа стаяць у капіталістычных краінах, як казаў Владзімір Ільіч **Ленін.** Клопаты партыі, асабіста клопаты таварыша **Сталіна** абавязваюць нас яшчэ больш узмацніць нашу энергію на выкананне пастаўленых перад намі задач.

Тут прыводзіліся прыклады шчаслівага жыцця нашага совецкага народу. Я магу прывесці прыклад свайго асабістага жыцця: бацька мой да Кастрычніцкай рэвалюцыі быў цёмны,

непісьменны, а мы яго дзеці зараз з'яўляемся шчаслівымі, пісьменнымі, жыццёрадаснымі.

У майго бацькі сямёра дзяцей, і ўсе мы вучымся. Старшы брат і я скончылі педтэхнікум. Мы працуем на карысць савецкай дзяржавы і ўсе мы ў падзяку таварышу Сталіну, у падзяку нашай партыі за яе клопаты вучымся і працуем добрасумленна (а п л а д ы с м е н т ы).

Адваротнае становішча моладзі ў капіталістычных краінах. Там моладзь, скончыўшы вышэйшыя навучальныя ўстановы, не можа знайсці сабе работы, і маюцца выпадкі, калі яны канчаюць жыццё самагубствам. У іх няма перспектывы ў будучым. Гэтую перспектыву яны здабудуць толькі шляхам рэвалюцыйнай барацьбы, шляхам знішчэння капіталістычнага ладу (а п л а д ы с м е н т ы).

Гераічны іспанскі народ, у барацьбе з фашыстамі здабывае сабе лепшую будучыню.

Поспехі, якія мы маем на ўсіх франтах соцыялістычнага будаўніцтва, выклікаюць злобу, ненавісць буржуазіі. Гэтыя заклятыя ворагі—рэшткі трацкістаў, якія ніколі не мелі ніякай маральнай падтрымкі з боку працоўных, не маюць ніякіх надзей, пайшлі на самыя подлыя, самыя гнусныя метады, яны вырвалі энергічнае сэрца большэвіка Сергея Міронавіча **Кірава,** яны імкнуліся падняць сваю брудную руку супроць нашых лепшых правадыроў—Іосіфа Вісарыёнавіча **Сталіна** і другіх. Мы павінны ўсю сваю энергію накіраваць на выкананне нашых задач, на ахову жыцця нашых правадыроў, бо мы не ўпэўнены, не гарантыраваны ў тым, што яшчэ не засталіся рэшткі гэтай ахранкі фашызма, якія ўвесь час імкнуцца падарваць наша соцыялістычнае будаўніцтва. Мы ахоўваем і будзем ахоўваць жыццё нашых любімых правадыроў—нашага любімага бацьку Сталіна, як зеніцу вока.

Аб нашым жыцці клапаціцца наша партыя, наш родны, любімы таварыш **Сталін.** Лепшай падзякай таварышу **Сталіну** і нашай комуністычнай партыі будзе добрасумленная праца, праца па-стаханаўску на ўсіх франтах нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Я ў сваёй школе ў адказ на клопаты нашай партыі, у адказ на клопаты любімага Сталіна працую добрасумленна, змагаюся за пісьменнасць вучняў, за павышэнне іх культурнага ўзроўню і таксама дапамагаю калгасу праводзіць культурна-масавую работу, дапамагаю ў павышэнні культурнага і палітычнага ўзроўню калгаснікаў.

Дзякуй таварышу **Сталіну** і нашым ордэнаносцам Беларусі таварышам **Гікало** і **Галадзеду** за наша шчаслівае юнацтва, за наша шчаслівае жыццё.

У падзяку за выдатную сталінскую Канстытуцыю я яшчэ з большай энергіяй буду працаваць, працаваць па-стаханаўску (а п л а д ы с м е н т ы).

**Старшыня.** Слова мае тав. Мядзьведзеў—рабочы—стаханавец скурзавода імя Сталіна з горада Магілёва.

**Мядзьведзеў.** Дэлегатам Усебеларускага з'езда советаў ад калектыва стаханаўцаў, ударнікаў, ІТР і служачых Магілеўскага скурзавода імя **Сталіна** стаханаўскае прывітанне! (А п л а д ы с м е н т ы).

Таварышы, да Надзвычайнага Усебеларускага з'езда советаў наш завод прышоў з вялікімі дасягненнямі. Гадавы план быў выканан к 3 кастрычніка. Прадукцыйнасць працы за стаханаўскі год вырасла на 38,9 проц., зарплата павялічылася на 35,0 проц. Аб чым гэта гаворыць? Гэта гаворыць аб тым, што мы больш энергічна ўзяліся за працу. Вы ведаеце, што Магілёў да гэтага часу ніколі не выконваў плана, мы заўсёды былі на чорнай дашцы. Раённы камітэт партыі вычысціў усіх тых нягоднікаў і зрыўшчыкаў, ворагаў народу, якія пралезлі ў рабочае асяроддзе. У выніку гэтага мы не толькі выканалі план, але знізілі сабекошт прадукцыі на 5,13 проц., атрымаўшы 2,5 млн. прыбытку больш, чым было прадугледжана планам (А п л а д ы с м е н т ы).

Таварышы, мы выконваем новыя нормы. Кожны рабочы ў сярэднім выконвае нормы на 124 проц. У аснову сваёй работы мы паклалі словы таварыша **Сталіна** аб тым, што работаць трэба не толькі мускуламі, работу трэба рацыяналізаваць. Гэтага мы і прытрымліваемся. Напрыклад, у 1927 годзе на завод была прыслана германская машына МН—4, да якой была напісана інструкцыя аб тым, што больш 300 скур нельга вырабляць. Раней машына мной валодала, а зараз я валодаю машынай і даю новую норму на машыне МН—4 у 1250 скур.

За 10 месяцаў наш завод ажыццявіў 115 рацыяналізатарскіх прапаноў, якія павялічылі прадукцыйнасць працы. Гэта дасягнута намі дзякуючы таму, што заводскі калектыў натхнёны мудрай прамовай правадыра народаў таварыша **Сталіна** на Першай Усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў.

Абмеркаванне праекта сталінскай Канстытуцыі выклікала велізарнейшы пад'ём сярод калектыва нашага завода. З кожным днём мы расцём. Прывяду Вам маленькі прыклад, хоць-бы з свайго жыцця. Скажыце, таварышы, дэлегаты, колькі Вы думаеце мне год? Мне-ж больш 50 год, але я з кожным днём маладзею (а п л а д ы с м е н т ы). Я з кожным днём маладзею таму, што «жыць стала лепш, жыць стала весялей, а раз стала весела жыць, то і работа стала спорнай». Скажыце, калі-б я мог быць у гэтай зале. Толькі пры гэтай уладзе я магу прысутнічаць на гэтым з'ездзе. Я папраўляюся кожны дзень і ўжо за гэты час, што я тут, напэўна папраўіўся на некалькі кілаграм (смех, а п л а д ы с м е н т ы).

Раней я зарабляў 150—160 рублёў, а зараз зарабляю 400—500 руб. у месяц. Я зараз маю свой гародзік, маю 3-х кабаноў, з якіх аднаго закалоў к святу Кастрычніцкай рэволюцыі. Мне жывецца добра. Такіх, як я, стаханаўцаў у нас многа. Напрыклад, Ганчароў, які да стаханаўскага руху зарабляў 150 руб. у месяц, а зараз 450—490 руб. і атрымаў грамату ЦВК. Таксама тт. Карасік, Калеснікаў і інш.

Мы з кожным днём павінны ўсё больш і больш рацыяналізаваць вытворчасць, рацыяналізаваць сваё рабочае месца. Мы ў гэтых адносінах маем такія дасягненні: там, дзе працавала 10 чалавек, зараз спраўляюцца 2, дзе працавала 5 чалавек—1 чалавек.

Раней я быў зусім непісьменны, я нават не ўмеў напісаць свайго прозвішча, а зараз я вучуся на вячэрніх гаспадарчых курсах. Я хачу ўсё больш і больш вучыцца, бо калі я буду пісьменным, я здолею яшчэ больш павышаць прадукцыйнасць працы.

Я ўпэўнен, што ў 1937 годзе замест даннай мне новай нормы ў 1250 скур, я дам 2000 скур (а п л а д ы с м е н т ы). Няхай жыве і квітнее наша ордэнаносная Беларусь!

Няхай жывуць нашы ордэнаносцы—кіраўнікі таварышы **Гікало і Галадзед!**

Няхай жыве гістарычны дакумент—сталінская Канстытуцыя і творца яе таварыш **Сталін!** (А п л а д ы с м е н т ы).

**Старшыня.** Слова мае лётчык—ордэнаносец Шустаў (б у р н ы я а п л а д ы с м е н т ы).

**Шустаў.** Дазвольце, таварышы, ад імя лётнага складу тэхнікаў, матарыстаў, чырвонаармейцаў, камандзіраў і палітработнікаў нашай Беларускай вайсковай акругі перадаць Вам палкае прывітанне! (А п л а д ы с м е н т ы).

Таварышы, Сталінская Канстытуцыя запісвае ў гісторыю пераможнага шэствія соцыялізма ў нашай краіне непарыўную сувязь арміі з народам.

Сувязь арміі з народам устанавілася моцна ў гады грамадзянскай вайны, калі беларускае сялянства дапамагала нашай Чырвонай арміі гнаць з нашай слаўнай Беларусі белапалякаў і ўсіх акупантаў, дзялілася з ёй хлебам, бульбай і ўсім чым магла.

У гады нашага пераможнага будаўніцтва расце і мацнее, дасягла небачанай сілы сувязь пралетарыята і калгаснага сялянства з нашай Чырвонай арміяй. Абарона нашай вялікай радзімы і абарона нашай квітнеючай Беларускай Рэспублікі з'яўляецца адной з задач будаўніцтва соцыялізма ў СССР і перамогі соцыялізма ва ўсім свеце.

Нам, лётчыкам, як нікому, відаць нашы дасягненні і ў гарадзе і ў вёсцы. Я лятаю ў Беларусі на працягу 10 гадоў. Беларусь я скалясіў сотні разоў з аднаго канца ў другі. На маіх вачахператварыліся вузкія палоскі ў аграмадныя масывы, саха заменена трактарным плугам.

Вы, дэлегаты—гаспадары нашай квітнеючай Беларускай Рэспублікі даеце нам першакласную навейшую тэхніку. Некаторыя з вас на беларускіх манеўрах 1936 года бачылі гэту тэхніку ў дзеянні. Мы заяўляем, што наша авіяцыя стаіць на першым месцы ў свеце (а п л а д ы с м е н т ы) і па якасці нашых машын і па якасці нашых людзей—самага дарагога для нас матарыяла.

Выдзяляючы лепшых з лепшых калгаснікаў, рабочых, камуністаў, комсамольцаў у паветраны флот Вы ўзмацнілі яго як

адну з асноўных, вельмі важных часцей нашай Рабоча-сялянскай Чырвонай арміі.

Таварышы, як мы авалодваем нашай тэхнікай? Мы лятаем вышэй за ўсіх у стратасферу, мы больш, больш і вышэй за ўсіх паднімаем грузы. Сёння ў газетах ёсць паведамленне, што наш лётчык т. Нюрцыкаў падняўся на вышыню 4535 метр. з грузам у 13 тон (а п л а д ы с м е н т ы). Калі будзе патрэбна, ён замест 13 тон пяску падніме іншыя вяшчэствы для таго, каб знішчыць фашыстаў там, дзе загадае наша партыя і ўрад (п р а ц я г л ы я а п л а д ы с м е н т ы).

Я не буду пералічаць усіх дасягнутых поспехаў ва ўсіх галінах нашай авіяцыі, вы самі чытаеце аб гэтым у газетах. Нядаўна паведамлялася ў газетах, што адзін французскі лётчык, які хацеў пабіць рэкорд, зваліўся на зямлю, а яго маршрут быў менш складаным, чым маршрут т. Чкалава і цэлага раду іншых лётчыкаў.

Мы, як ні адна краіна ў свеце, маем вялікія дасягненні ў арганізацыі паветраных дэсантаў. На манёўрах 1936 года мы высаджвалі па 2—3 тыс. чалавек, можам 5—10 тысяч выкідваць парашутыстаў, калі будзе патрэбна, мы высадзім дэсант за 100—200 кілометраў у тыл ворага (а п л а д ы с м е н т ы).

На адным з комсамольскіх сходаў комсамольцы скардзіліся на тое, што мы іх не выкідваем на парашутах. Усе хочуць прыгаць. Мне расказваў адзін таварыш, які быў за-граніцай і знаёміўся з арміяй адной капіталістычнай краіны, што на яго пытанне аб тым, як развіваецца парашутызм, яму адказалі: «Прыгаць справа складаная, афіцэры лічаць за лепшае пакуль устрымацца».

У нашай краіне, у Чырвонай арміі прыгаюць, пачынаючы ад чырвонаармейца і канчаючы самым высокім генералам (а п л а д ы с м е н т ы).

На манеўрах 1936 года мне прышлося ў другі раз сустрэцца з прадстаўніком буржуазнай арміі. Год таму назад я з ім сустракаўся. Ён мяне запытаў: «Скажыце, як Вы можаце за год усё перарабіць? У Вас усё новае»? Я адказваў: «Для нас гэта нічога не значыць, стоіць толькі напісаць патрабаванне—вышліце новыя самалёты, ніякіх абгаварэнняў не трэба, вышлюць самалёты». Гэта магчыма толькі ў нашай краіне.

Чырвоная армія мае велізарныя дасягненні таму, што мы выхоўваемся на ўроках Кастрычніцкай пролетарскай рэволюцыі, выхоўваемся і расцем разам з нашай цудоўнай краінай, мы з'яўляемся вучнямі нашай партыі, вучнямі найвялікшага правадыра ўсіх народаў—таварыша **Сталіна** (п р а ц я г л ы я а п л а д ы с м е н т ы).

Таварыш **Варашылаў** сказаў, што мы будзем біць ворага на яго тэрыторыі, адкуль ён прышоў. Я заяўляю: авіяцыя будзе біць ворага не толькі на яго тэрыторыі, але будзе біць яго ў самых аддаленых пунктах капіталістычнага свету (г у ч н ы я а п л а д ы с м е н т ы).

Таварышы, XII З'езд Советаў—гэта трыумф нашых перамог.

Тав. Чэрвякоў сказаў, што калі будзе патрэбна, не толькі армія, але і ўсё працоўнае насельніцтва стануць на абарону нашай прыгожай радзімы (а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве наш вялікі працоўны народ!

Няхай жыве наша квітнеючая Беларуская Совецкая Рэспубліка!

Няхай жывуць, таварышы, нашы кадры!

Няхай жыве першы маршал Совецкага Саюза таварыш **Варашылаў!** (П р а ц я г л ы я а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жывуць кіраўнікі нашай ордэнаноснай БССР т.т. **Гікало, Галадзед** і **Чэрвякоў!** (Г у ч н ы я а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве правадыр народаў таварыш **Сталін,** якому мы абавязаны будзем даказаць, што канчатковую ацэнку работнікаў паветранага флота атрымаем там, дзе патрэбна будзе ахвяроўваць жыццём. Я не сумняваюся, што уся Чырвоная армія і паветраны флот па першаму закліку партыі і ўрада стане грудзямі і аддасць на абарону нашай Вялікай радзімы самае каштоўнае, што ў нас ёсць—наша жыццё (б у р а а п л а д ы с м е н т а ў).

**Ізі Харык.** Таварышы, прыгледзімся да гэтага З'езда, які адбываецца ў сталіцы ордэнаноснай Рэспублікі. Быў я таксама на з'ездзе советаў Чавускага раёна—адно характэрнае ва ўсіх выступленнях: выступае калгасніца і гаворыць, як аграном, выступае стаханавец або вучоны і цытуе паэзію, гаворыць як паэт. У дакладзе главы нашага ўрада не толькі цытуюцца вершы, але ёсць замечацельныя тэмы для любога пісьменніка, для бліскучых паэм.

Выступае лётчык—абітацель, так сказаць, неба і бліскуча гаворыць аб справах соцыялістычнай зямлі. Прыходзяць піонеры, танцуюць і спяваюць і прыводзяць лічбы нашай соцыялістычнай рэчаіснасці. Прыходзіць піонерка з кветкамі і садзіцца з нашымі кіраўнікамі ў Прэзідыум, як сапраўдны член Прэзідыума.

Ніякага разрыва паміж пакаленнямі. Пераплятаецца соцыялістычная рэчаіснасць, паэзія, планавасць, мастацтва ў адно цэлае і ўсяму гэтаму адно імя, ўсяму гэтаму адна назва—сталінская эпоха, соцыялізм (д о ў г і я а п л а д ы с м е н т ы).

Абмяркоўваем геніяльную Канстытуцыю, Канстытуцыю, створаную геніяльным чалавекам **Сталіным.** Калі ўважліва чытаеш Канстытуцыю, адчуваеш, што такую Канстытуцыю мог напісаць толькі геніяльны чалавек, які чулліва слухае пройдзеныя эпохі, пройдзеныя пакаленні, стварае сапраўдную соцыялістычную рэчаіснасць, глыбока заглядвае ўперад, пералічвае нашу комуністычную будучыню.

Праект Канстытуцыі абмяркоўваўся ўсюды. Абмяркоўвалі ў вялікіх гарадах, беларускіх вёсках, грузінскіх аулах, казакскіх станіцах, якуцкіх улусах, розныя народы абмяркоўвалі, гаварылі на розных мовах, але чулася адна мова, мова соцыялізма, сталінская мова, мова большэвізма.

У хоры свабодных народаў, якія абмяркоўвалі Канстытуцыю, упершыню таксама чутны быў голас народа, які ніколі народам не быў і які ніколі не быў-бы народам, калі-б не ленінска-сталінская нацыянальная палітыка. У гэтым хоры таксама быў чутны голас яўрэйскага народа. У Канстытуцыі таксама гаворыцца аб самым маладым дзяржаўным утварэнні—аб яўрэйскай аўтаномнай вобласці.

Ніколі і нідзе, апрача краіны соцыялізма, гэта не магло быць. Гэта таму, што пад кіраўніцтвам партыі разбіты ўсе контррэвалюцыйныя бундаўскія, сіяніцкія тэндэнцыі. СССР—бацькаўшчына ўсяго чалавецтва, ён таксама бацькаўшчына яўрэйскіх шырокіх працоўных мас.

Трэба зрабіць маленькую экскурсію ў сярэднявякоўе, якое жыве яшчэ і цяпер у не вельмі аддалёных краінах.

У нас гаворыцца аб правах і абавязках—там таксама ёсць правы. Якое-ж там права? Іх фашысцкія правы можна ахарактарызаваць двумя радкамі з старай песні 1905 года аб Нікалаі Вешальніку:

Мертвым свободу
Живых под арест.

Вось яна сутнасць капіталістычнай канстытуцыі. Калі там сялянам даецца права на зямлю, то толькі пасля смерці на тры аршыны. Калі там ёсць права на адпачынак, то толькі «адпачынак» такі, які прадаўжаецца 3—4 гады,—вымушанае беспрацоўе. Голад і беспрацоўе.

Прывяду маленькі прыклад аб тым, у якім становішчы жывуць яўрэйскія працоўныя, у прыватнасці ў Польшчы. Прыязджае яўрэйскі аберфашыст, прэзрэнны сіяніст Жабоцінскі. Як былы гогалеўскі Чычыкаў, які рашыў гандляваць «мёртвымі душамі», ён прыехаў у Польшчу дагаварыцца з польскімі панамі: «даю—бяру», каб забраць яўрэяў Польшчы ў Палестыну. Фашысцкі гандаль Чычыкава і Сабакевіча. Польскія палітычныя фактары замест таго, каб знішчыць яўрэяў у сябе ў краіне хочуць «ашчаслівіць» іх, наладзіць сярэдневяковае перасяленне народаў у Палестыну. Фашысцкая так называемая «нацыянальная» палітыка.

Гэтыя антысеміты і эндэкі адну руку працягваюць фашысту Жабоцінскаму, а другой рукой наладжваюць пагромы. Але сіяністы і эндэкі забываюць, што яўрэйскія працоўныя масы ў Польшчы не «мёртвыя душы» і што яны там у сябе ў краіне знойдуць больш радыкальныя шляхі, каб пазбавіцца ад буржуазна-фашысцкага гнёту, як сіяніцкія «рэцэпты».

Як не адчуваць радасць і гонар за сваю краіну і як не ганарыцца, калі ты называеш сябе совецкім грамадзянінам! Кожны з нас, як сказаў зараз таварыш лётчык, які выступаў перада мною, кожны з нас на любым участку, у любым становішчы

будзе са зброяй ў руках змагацца за тое, каб абараніць сваю сацыялістычную радзіму (а п л а д ы с м е н т ы).

З'езд адбываецца ў сталіцы ордэнаноснай БССР. Каласальныя поспехі беларускага народу, бліскучыя поспехі яўрэйскіх працоўных, якія працуюць рука аб руку. Чалавек майго пакалення бачыў у дзяцінстве «сваю» Беларусь—якой чарта аседласці для працоўных, для яўрэйскай беднаты і шырокія магчымасці для яўрэйскіх купцоў першай гільдыі.

У пісьме беларускага народу **Сталіну** ёсць такія радкі:

Гора і галеча пад адным прымусам
Папалам дзялілі яўрэй з беларусам.

І як атрадна зараз з гэтай трыбуны заявіць, што цяпер радасць і шчасце пад адным сталінскім кіраўніцтвам дзеляць папалам яўрэй з беларусам (а п л а д ы с м е н т ы). Папалам з усімі працоўнымі нашай прыгожай краіны.

Варта прыглядзецца да тых карэнных змен, якія адбыліся ў нетрах беларускіх ці яўрэйскіх працоўных. Наша эпоха ліквідавала не толькі эксплаатататарскія класы, але таксама і многія паняцці. А я асабіста лічу, і на гэтым З'ездзе сапраўды адчуваецца, што такое слсза, як «правінцыя» беспаваротна ліквідавана. Хіба хто-небудзь адважыцца сказаць, што сюды на З'езд прыехалі прадстаўнікі правінцыі? Ні ў якім выпадку.

Прыехалі прадстаўнікі раёнаў, а раён—цэнтр сацыялістычнай дзейнасці. Няма правінцыі, а ёсць усюды, ва ўсіх кутках нашай краіны сацыялістычнае будаўніцтва.

Па-мойму носіць абсалютна іншы характар такое слова, як «мястэчка». Гэта ўжо раён калектывізацыі. Доўга думалі над праблемай мястэчка. Прышла першая пяцігодка. Прышла другая пяцігодка, і мы бачым, як проста вырашылася гэта праблема. Яна радасна вырашана як у рамках мястэчка, так і за межамі мястэчка. Сустрэнеце моладзь мястэчак сярод будаўнікоў Метро, сярод стаханаўцаў прадпрыемстваў, сярод чырвонаармейцаў ДВК. Вось, як наша партыя вырашыла праблему мястэчка.

Былі калісьці спецыяльныя яўрэйскія прафесіі—кравец, шавец. Гэтыя словы ўжо таксама не тыя. Як можна назваць стаханаўца Скабло шаўцом? Гэта не шавец, а гэта будаўнік сацыялізма, гэта стаханавец (а п л а д ы с м е н т ы). Успамінаецца стары бедны кравец, шавец,—песня «гемерыл, гемерыл клап». Бедныя змучаныя ўпалагрудыя людзі. А цяпер учарашні шавец Соскін, сёння сакратар аршанскага райкома, учарашні шавец Скабло—лепшы стаханавец.

У барацьбе з контррэвалюцыйным трацкізмам і бундызмам, нац.-дэмакратызмам, сіянізмам вырас наш культурны фронт. У Беларусі яўрэйскіх пісьменнікаў не было, цяпер тут жыве і творыць талантлівы атрад яўрэйскіх совецкіх пісьменнікаў.

Гэты атрад вырас у брацкім аб'яднанні, у інтэрнацыянальнай дружбе з прыгожай беларускай совецкай літаратурай. Вырас добры талантлівы яўрэйскі тэатр, школы, прэса.

І хочацца сказаць: няхай жывуць кіраўнікі нашай ордэнаноснай Совецкай Беларусі Нікалай Фёдаравіч Гікало (а п л а д ы с м е н т ы), Нікалай Мацвеевіч Галадзед (а п л а д ы с м е н т ы), Александр Грыгоравіч Чэрвякоў! (А п л а д ы с м е н т ы).

Гэты З'езд з'яўляецца лепшай дэманстрацыяй ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. Любы з нас, хто выступіць на гэтым З'ездзе і хто не выступіць,—усе мы адчуваем вялікую ўдзячнасць нашаму **Сталіну.** Палкае большэвіцкае прывітанне самаму геніяльнаму чалавеку свету таварышу **Сталіну!** (Д о ў г і я а п л а д ы с м е н т ы).

(Чытае на яўрэйскай мове верш, прысвечаны таварышу **Сталіну**, які пры гэтым прыкладаецца).

ווער אין יאָרן ברויזנדיקע און אין יאָרן טריבע
האָט פאר אונדז דאָ אויסגעכאָוועט אזא גרויסע ליבע?
כאווער סטאלין.

ווער האָט אין קאָלווירטן דאָס אריינגעבראכט דעם פויער,
אים צעקריגט אפ אלע מאָל, אפ שטענדיק מיטן טרויער?
כאווער סטאלין.

ווער האָט דאָס דעם ארבעטער דערהויכט ביז אינזשעניערן,
ווער האָט אונדז פון גרויסן טאט געמאכט פאר פּיאָנערן?
כאווער סטאלין.

ווער האָט בא מײַן יונגן פאָלק איצט אויסגעגלײַכט די פלייצע,
ווער האָט אלע פעלקער דאָ מיט גרויסער פרייד פארפלייצט שוין?
כאווער סטאלין.

ווער האָט אונדז אפ אייביק שוין געראטעוועט פון זאָרגן,
ווער פאר אונדז צעעפנט האָט די טויערן פון מאָרגן?
כאווער סטאלין.

Няхай жыве геніяльны правадыр таварыш **Сталін!** (Д о ў г і я а п л а д ы с м е н т ы).

**Пушчын** (старшыня). Слова мае баец-стаханавец 8 Менскай імя Ф. Дзержынскага ордэнаноснай дывізіі тав. Тарасаў (а п л а д ы с м е н т ы).

**Тарасаў.** Таварышы, байцы, камандзіры і палітработнікі 8-й слаўнай імя Фелікса Дзержынскага Менскай стралковай дывізіі прасілі перадаць Вам палкае, баявое прывітанне (а п л а д ы с м е н т ы).

Новая сталінская Канстытуцыя нашымі байцамі, таксама як і ўсімі працоўнымі Совецкага Саюза і працоўнымі ўсяго свету, сустрэта з вялікім пад'ёмам і энтузіязмам.

Байцы сустрэлі праект новай Канстытуцыі шырокім разгортваннем социялістычнага спаборніцтва і стаханаўскіх метадаў працы. Праект новай сталінскай Канстытуцыі ў нас абмяркоўваўся ў сур'ёзны перыяд—перыяд падрыхтоўкі да асенняй вучобы, да манеўраў. Байцы і камандзіры былі натхнёны гэтым гістарычным дакументам на вялікія подвігі, на вялікія справы, якія яны змаглі ажыццявіць.

Калі мы возьмем дзеянні на манеўрах, возьмем перыяд падрыхтоўкі да іх, перыяд маршаў, якія мы зрабілі, то ўсё гэта гаворыць аб тым, што байцы, камандзіры і палітработнікі адданы справе **Леніна—Сталіна.** Мы зрабілі маршы ў мірнай абстаноўцы, якія раўняюцца адлегласці да Варшавы, а калі трэба будзе гэтыя маршы зрабіць у баявой абстаноўцы, мы іх правядзем у найбольш кароткія тэрміны з захаваннем баявой здольнасці біць ворага на кароткіх і блізкіх дыстанцыях.

Як вынік нашай работы, як вынік спаборніцтва і размаха стаханаўскага руху ў часцях нашай слаўнай дывізіі мы маем не толькі асобных стаханаўцаў, але і цэлыя стаханаўскія падраздзяленні, аддзяленні, узводы, роты, мы маем падраздзяленне ордэнаносца тав. Тамоняна, якое мае выключную выдатную ацэнку ва ўсіх дзеяннях. Падраздзяленне лейтэнанта т. Алёшына, на спаборніцтве войск акругі заняло першае месца. Падраздзяленне старшага лейтэнанта т. Чэрных мае толькі выдатныя паказчыкі. Тры месяцы таму назад мы мелі па стралковай падрыхтоўцы ацэнку 4, 5, 4 бала, цяпер перад нашым Надзвычайным XII Усебеларускім З'ездам Советаў мы атрымалі 5 балаў (а п л а д ы с м е н т ы). Наша магутная і непераможная Рабоча-сялянская Чырвоная армія (а п л а д ы с м е н т ы), пад кіраўніцтвам першага маршала Совецкага Саюза таварыша **Варашылава,** дасць, калі гэта будзе патрэбна, сакрушальны адпор нашым ворагам (а п л а д ы с м е н т ы).

Таварышы, тут ужо гаварылі, што наша Канстытуцыя з'яўляецца самай дэмакратычнай Канстытуцыяй у свеце. Яна сустракае сімпатыі не толькі ў нас, але і ў працоўных усяго свету. На нас ляжыць абавязак ахоўваць социялістычныя заваёвы нашай краіны, запісаныя ў сталінскай Канстытуцыі, яшчэ больш пільна, каб ні адна варожая рука не змагла крануць нашу совецкую тэрыторыю.

Я скажу пару слоў аб сабе.

Служба ў Рабоча-сялянскай Чырвонай арміі—гэта пачэсная справа, я вельмі рад, што дастоен абараняць нашу радзіму. Да службы ў арміі я працаваў на прадпрыемстве. Я прайшоў добрую дапрызыўную падрыхтоўку, скончыў Дзержынскую школу снайпераў у Маскве, за паспяховае сканчэнне якой быў узнагароджан гадзіннікам і граматай. Прышоўшы ў рады Рабоча-сялянскай Чырвонай арміі, я даў абяцанне, што званне байца Чырвонай арміі апраўдаю. На аснове разгортвання стаханаўскіх

метадаў працы я тэрмін абучэння скараціў з 9 месяцаў да 3 месяцаў (а п л а д ы с м е н т ы). Пасля 3-х месяцаў прабывання ў Чырвонай арміі я атрымаў права выхоўваць байцоў, і, калі будзе патрэбна, гатоў іх весці ў бой (а п л а д ы с м е н т ы). Стаўшы камандзірам аддзялення, я не спыніўся на сваіх уласных поспехах. Свае веды павышаю, бо выхаванне людзей—гэта вельмі сур'ёзная справа, асабліва ва ўмовах Рабоча-сялянскай Чырвонай арміі. Я дабіўся, што па вынікам вучэбнага года маё падраздзяленне атрымала лепшую ацэнку (а п л а д ы с м е н т ы).

Маёй вучобе, майму росту дапамагаюць камандзіры і палітработнікі часцей дывізіі і асабліва начальнік палітаддзела дывізіі т. Грэбеннік. Я кулямётчык. Мне далі магчымасць трэніравацца, каб стаць выдатным стралком. Гэту магчымасць я скарыстаў. У перыяд, калі праводзіліся акруговыя стралковыя спаборніцтвы, я падрыхтаваўся так, што атрымаў права прыняць удзел у стралковых спаборніцтвах БВА. На гэтых спаборніцтвах я быў прэміраван фатаграфічным апаратам і стаў фотааматарам. За ўдарную баявую і палітычную падрыхтоўку майго аддзялення камандаванне палка ўзнагарадзіла мяне імянным гадзіннікам (а п л а д ы с м е н т ы). Гэта таварышы, не ўсё. Мы ведаем, што нашы выдатныя паказчыкі баявой і палітычнай падрыхтоўкі павышаюць нашу здольнасць, але гэтага недастаткова. Газета «Боевая подготовка» арганізавала конкурс сярод малодшых камандзіраў Рабоча-сялянскай Чырвонай арміі на лепшыя ўзоры ваеннай хітрасці, находлівасці і ініцыятывы ў ваенных дзеяннях. На гэтым конкурсе я атрымаў першую прэмію (а п л а д ы с м е н т ы).

Наша баявая і палітычная падрыхтоўка рэзультатамі, якія мы маем, не можа абмяжоўвацца. Мы стараемся штомінутна, штогадзінна дабівацца больш лепшых паказчыкаў, каб выканаць указанні нашага любімага наркома таварыша **Варашылава** (а п л а д ы с м е н т ы) аб тым, каб біць ворага на чужой тэрыторыі (а п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве баявы камандарм першага ранга т. **Убарэвіч!** (А п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жывуць ордэнаносцы Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі т. т. **Гікало** і **Галадзед!** (А п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жыве Ўсесаюзная Комуністычная партыя большэвікоў на чале з творцам новай Канстытуцыі таварышом **Сталіным!** (А п л а д ы с м е н т ы).

(Воклічы: «Няхай жывуць стаханаўцы Чырвонай арміі»!) (А п л а д ы с м е н т ы).

**Пушчын** (старшыня). З'езд прышлі вітаць прадстаўнікі соцыялістычнай навукі і мастацтва БССР. (А п л а д ы с м е н т ы).

(Паяўленне на трыбуне дэлегацыі навуковых работнікаў сустракаецца бурнымі апладысментамі ўсяго зала).

Слова для прывітання мае народны паэт Рэспублікі **Якуб Колас** (а п л а д ы с м е н т ы).

**Якуб Колас.** Таварышы, дэлегацыя навуковых працаўнікоў, работнікаў медыцыны, пісьменнікаў, настаўнікаў і дзеячоў мастацтва прышла сюды для таго, каб перадаць Надзвычайнаму XII Усебеларускаму з'езду советаў, які сабраўся для абмеркавання гістарычнай сталінскай Канстытуцыі, гарачае большэвіцкае прывітанне! (А п л а д ы с м е н т ы).

Мы прышлі сюды і для таго, каб выказаць тыя пачуцці бязмежнай адданасці, любві і энтузіязма, якія ахопліваюць усіх работнікаў социялістычнай культуры Совецкай Беларусі да вялікага тварца Канстытуцыі пераможнага соцыялізма, да арганізатара сусветна-гістарычных перамог Совецкага Саюза, да творца беларускай дзяржаўнасці, да нашага вялікага, мудрага, геніяльнага **Сталіна** (а п л а д ы с м е н т ы).

Таварышы, у той час, калі ў краінах буржуазнай дыктатуры культура дэградуе і распадаецца, а свабодная творчая думка пасаджана на фашысцкі ланцуг, у Совецкім Саюзе пад кіраўніцтвам мудрай партыі **Леніна—Сталіна** культура дасягнула небывалага росквіту, узнялася на новую ступень, невядомай сусветнай гісторыі.

Тут, на рубяжы з капіталістычным светам, мы асабліва ярка адчуваем гэтае супроцьстаянне 2-х культур—культуры загніваючага капіталізма і ўзыходзячай над светам культуры перамогшага соцыялізма. Пад акупанцкім ботам польскіх імперыялістаў Заходняя Беларусь апушчана ў змрок бескультур'я, нужды, галечы, жабрацтва і цемры. Знішчаны, растоптаны самыя элементарныя парасткі культуры, і працоўныя масы пазбаўлены нават пачатковай асветы.

Наша дэлегацыя шчасліва заявіць Надзвычайнаму XII Усебеларускаму з'езду советаў, гаспадару ордэнаноснай Совецкай Беларусі, што мы, работнікі фронта соцыялістычнай культуры, разам з усімі працоўнымі нашай квітнеючай рэспублікі прыходзім к гэтаму з'езду з значнымі дасягненнямі ў галінах нашай работы.

Лозунг нашага геніяльнага правадыра і настаўніка аб павышэнні ўраджайнасці соцыялістычных палёў мы выконваем. Супольнымі сіламі вучоных і калгаснікаў у цэлым радзе калгасаў мы дабіліся высокіх ураджаяў, якіх не ведала ранейшая дробная гаспадарка беларускага сялянства. Мы збіраем з аднаго га ад 450 да 530 цэнт. бульбы, 20—38 цэнтн. аўса, ячменю ў зярне і да 20 цэнтн. жыта, павысіўшы гэтым ураджай у 3—3½ разы.

Такіх-жа поспехаў мы дабіліся і па культуры лёну.

Калгас «Новае жыццё», Чавускага раёна, дабіўся 1034 кг. ільновалакна пры сярэдняй нумарнасці—19,3 і 758 кг. насення. На 1937 год калгаснікі гэтага раёна ставяць сабе задачай даць 12 цэнтн. ільнавалакна з аднаго га.

Мы памятаем словы нашага правадыра і настаўніка, сказаныя ім на Першай Усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў, што важна

для навукі прыслухоўвацца да голаса вопыта і практыкі. Мы будзем імкнуцца да таго, каб гэта выканаць.

Навуковыя работнікі абяцаюць, што і ў далейшай сваёй рабоце яны будуць безупынна змагацца за яшчэ больш высокі ўраджай, пашыраючы яго на ўсе калгасы і соўгасы, усю сваю работу яны канцэнтруюць і будуць канцэнтраваць на важнейшых задачах соцыялістычнага будаўніцтва, увязваючы тэорыю з практыкай, нязменна павышаючы і якасць сваёй навуковай кніжнай прадукцыі.

Расце і развіваецца таксама і наша мастацкае слова. Брыгадай паэтаў перачказан ліст беларускага народу вялікаму **Сталіну.** Напісана кніга—12 песень тав. **Варашылаву** пра нашу непераможную Чырвоную армію, напісан зборнік, прысвечаны гераічнай Іспаніі і яе барацьбе з азвярэлымі фашысцкімі разбойнікамі. Празаікі выступілі з новымі творамі аб нашай вялікай эпосе, драматургі рыхтуюць нашым тэатрам новыя п'есы. Вядзецца работа над перакладам на беларускую мову твораў геніяльнага рускага паэта Пушкіна. XX гадавіну Вялікай Соцыялістычнай рэволюцыі адзначаць новымі мастацкімі творамі.

З году ў год павялічваецца лік новых, светлых сталінскіх школ, дзіцячых садоў і палацаў піонераў. Работнікі фронта асветы, агорнутыя, як усе мы, выключнай увагай нашай партыі і ўраду, з энтузіязмам аддаюць свае сілы на выхаванне нашага маладога жыццерадаснага пакалення і ставяць сабе задачай поўнасцю выканаць дырэктывы партыі аб зліквідаванні непаспяховасці, малапісьменнасці і падрыхтаваць совецкай краіне моцныя, стойкія маладыя кадры, бязмежна адданыя сваёй соцыялістычнай радзіме, большэвіцкай партыі і яе кіраўнікам.

Палітыка нашай слаўнай партыі і сталінскія клопаты аб чалавеку, аб яго дабрабыце і здароўі выклікалі да жыцця густую сетку дамоў адпачынку, санаторыяў, больніц, амбулаторый, радзільных дамоў, навукова-даследчых медыцынскіх устаноў, дзе распрацоўваюцца важныя праблемы, звязаныя з аховай здароўя працоўных. У адпаведнасці з гэтым падрыхтаваны і медыцынскія кадры. Яны з гонарам выконваюць свае абавязкі.

Ленінска-сталінская нацыянальная палітыка таксама з асаблівай цеплынёй клапаціцца аб музычнай асвеце працоўных і аб усіх іншых відах народнага мастацтва і творчасці. З года ў год растуць новыя кадры работнікаў мастацтва.

Наша партыя большэвікоў Беларусі і яе лепшыя прадстаўнікі—ордэнаносцы Нікалай Фёдаравіч **Гікало** і Нікалай Мацвеевіч **Галадзед** аддаюць яму сваю выключную ўвагу і дапамогу.

Сапраўдная соцыялістычная культура, навука, паэзія, мастацтва становяцца здабыткам шырокіх працоўных мас.

Рассказваючы аб нашых дасягненнях у галіне соцыялістычнай культуры, мы аднак не забываемся і на цэлы шэраг вузкіх месц і недахопаў у нашай рабоце. Мы не дабіліся яшчэ паса-

праўднаму ўнядрэння здабыткаў нашай навукі ў вытворчасць. Не ўсе важнейшыя задачы і заданні, што ставіць перад работнікамі навукі наш Урад і партыя, выконваюцца поўнасцю. Трэба таксама адзначыць, што і класавая пільнасць, аб якой мы часта гаворым, выражаецца часамі больш у словах, чым нашым дзеянні.

Мы ў недастатковай ступені мабілізавалі сябе на знішчэнне гэтых недахопаў. Нашы кадры незаўсёды забяспечваюцца належным кіраўніцтвам. Недастатковая з нашага боку звараўваецца ўвага на прыцягненне і вырашчванне новых маладых кадраў мастацкага слова. Мы яшчэ слаба звязаны з творчым патокам соцыялістычнага жыцця, з рабочымі фабрык і заводаў і з нашымі калгасамі, са стаханаўцамі.

У нашых бытавых умовах мы не ўсе і не ў поўнай меры пазбавіліся грузаў мінулага, традыцый індывідуалізма. На фоне дзівоснай сталінскай Канстытуцыі, дакумента, які кладзе новую эпоху і так высока ўзносіць само імя чалавека, гэтыя недахопы выступаюць асабліва ярка і адмоўна. Наш маральны абавязак—пазбавіцца іх, стаць поўнацэннымі грамадзянамі вялікай сталінскай краіны соцыялізма. Мы гэта ўсведамляем, мы да гэтага імкнемся і мы гэтага дасягнем.

Няхай жыве наша слаўная, баявая комуністычная партыя!

Няхай жыве тварэц новай Канстытуцыі, наш настаўнік і мудры правадыр!

«Табе—наша радасць, любоў і адданасць,
Табе пяе славу сусветная шыр,
Вядзі нас, любімы, табой мы з'ядналы,
Ты наша жыццё, дарагі правадыр»

**Старшыня.** Слова мае т. Міхалькевіч—настаўніца Рагачоўскага раёна.

**Міхалькевіч.** Ад працоўнай інтэлігенцыі Рагачоўскага раёна дэлегатам Надзвычайнага XII Усебеларускага З'езда Советаў, першаму дэлегату З'езда Советаў—таварышу **Сталіну** палкае прывітанне! (А п л а д ы с м е н т ы).

Усе рэспублікі нашай неабдымнай соцыялістычнай радзімы прыходзяць да VIII-га Ўсесаюзнага з'езда советаў з вялікімі дасягненнямі на ўсіх участках нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Па ўсіх раёнах нашай ордэнаноснай БССР прайшлі з вялікім уздымам надзвычайныя з'езды советаў, на якіх абгаварваўся вялікі гістарычны дакумент—праект сталінскай Канстытуцыі. Канстытуцыя з'яўляецца прыгожым, красамоўным выражэннем ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. Гэта граніца, пасля якой пачнецца новы, больш грандыёзны рост савецкай дэмакратыі. У сталінскай Канстытуцыі запісаны ўсе пытанні нашага соцыялістычнага будаўніцтва. У ёй запісаны правы на працу, на адпачынак, на асвету. Праца ў нашай краіне з'яўляецца справай гонару, доблесці і геройства. Настаўнік у нашай краіне пастаўлен на такую вышыню, на якой ён не стаяў, не стаіць і не будзе стаяць у капіталістычных краінах. Аб настаў-

ніках і дзецях клапоцяцца наша любімая комуністычная партыя і вялікі геній чалавецтва таварыш **Сталін** (а п л а д ы с- м е н т ы).

У вядомых рашэннях партыі і ўрада, якія былі прыняты па непасрэднай ініцыятыве таварыша **Сталіна**, красамоўна гаворыцца аб той вялікай увазе, якую надае таварыш **Сталін** школе. Гэта відаць з наступных пастаноў аб рэжыме ў школе, дысцыпліне, падручніках, пісьмовых прыладах, заработнай плаце настаўнікам, атэстацыі настаўнікаў.

З якімі вынікамі прышоў Рагачоўскі раён да Надзвычайнага XII з'езда советаў?

У Рагачоўскім раёне ёсць 82 школы, з іх: 3 поўных сярэдніх, 20 няпоўных сярэдніх і 59 пачатковых школ. 80 проц. усіх школ пераведзена на адну змену. У школах навучаецца 14.126 дзяцей. Гэта краскі, гэта юнацтва нашай вялікай сталінскай эпохі. Школы атрымалі 1100 новых парт, атрымалі 75 тысяч руб. на абсталяванне вучэбных габінетаў.

Як павялічылася зарплата настаўнікаў?

Настаўнік, які атрымліваў да пастановы партыі і ўрада 85 руб. у месяц, зараз атрымлівае 193 р.; які атрымліваў 114 руб., зараз атрымлівае 335 руб.

Ёсць 5 дзіцячых дамоў. Гэта выхаванцы нашай комуністычнай партыі, у якіх знаходзіцца 312 чал. дзяцей.

Дзіцячых садоў 10, якімі ахоплена 365 дзяцей; 50 дзіцячых пляцовак, на якіх праводзяць час 1224 дзіцяці.

У 1935—36 г. па раёну выпушчана 2877 чалавек, скончыўшых школу малапісьменных і 901—ліквідавалі сваю непісьменнасць.

Нам, настаўнікам, даручана пачэсная справа і адказная галіна—выхаванне дзяцей у духе комунізма.

Я працую добрасумленна і аддана ў школе 26 год і думаю яшчэ працаваць 25 год (а п л а д ы с м е н т ы). Кожны год Совецкая школа дасягала 97 проц.—100 проц. паспяховасці вучняў, дзякуючы добрым умовам, створаным нашай партыяй і ўрадам. Я атрымліваю самую высокую пенсію за выслугу 25 год. Жыву вясёла і шчасліва і работа ідзе ў мяне спорна.

Я ўпершыню прысутнічаю на такім грандыёзным З'ездзе, і вельмі шчаслівa, што разам з лепшымі людзьмі нашай краіны—стаханаўцамі і ордэнаносцамі абмяркоўваю праект вялікай сталінскай Канстытуцыі.

Я абяцаю З'езду выканаць задачы, якія пастаўлены перад намі партыяй і ўрадам у галіне навучальна-выхаваўчай работы ў школе, і даць у 1936—37 навучальным годзе 100 проц. паспяховасці вучняў, а таксама аддана работаць і ў грамадскай працы.

Няхай жывуць працоўныя нашай социялістычнай бацькаўшчыны—лепшыя людзі краіны—стаханаўцы і ордэнаносцы!

Няхай жывуць нашы кіраўнікі таварышы **Гікало, Галадзед і Чэрвякоў!** (А п л а д ы с м е н т ы).

Няхай жывуць маршалы Совецкага Саюза таварышы **Варашылаў, Будзённы, Тухачэўскі, Егораў, Блюхер!** (Апладысменты.)

Няхай жыве наша комуністычная партыя і гені ўсяго чалавецтва, лепшы друг дзяцей—таварыш **Сталін!** (Гучныя апладысменты).

**Старшыня.** Слова мае Старшыня Дзяржплана БССР і нам. Старшыні Соўнаркома БССР т. **Любовіч** (апладысменты).

**Любовіч.** Таварыш **Чэрвякоў** у сваім вялікім і змястоўным дакладзе даў поўную карціну тых перамог, якія атрымала Беларусь ў гаспадарцы і культуры і якія адлюстраваны ў сталінскай Канстытуцыі.

Выключныя перамогі ў сельскай гаспадарцы і прамысловасці і вялікі яны ў галіне культуры, ва ўсіх яе частках. На раённых з'ездах советаў—у кожным горадзе, у кожным калгасе відаць, як выраслі кадры стаханаўцаў, як растуць кадры ў галіне культуры, дзе мы бачым выключныя ўзоры і надзвычайна быстры ўздым.

Але тым больш, пры гэтых выключна вялікіх дасягненнях павышаюцца запатрабаванні кожнага працоўнага, кожнага ўдзельніка вялікай будоўлі да сваей работы, для добрай яе пастаноўкі. І нам напярэдадні зацверджання сталінскай Канстытуцыі на Надзвычайным З'ездзе Советаў трэба поўнасцю ліквідаваць паасобныя недахопы ў нашай практыцы работы, з тым каб яшчэ больш паўней, яшчэ больш дасканалей весці яе ў галіне гаспадаркі і культуры БССР—перадавой рэспублікі Совецкага Саюза, атрымаўшы ордэн **Леніна** за свае вялікія поспехі ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва.

Аб асобных недахопаў, якія мы абавязаны найхутчэй знішчыць, якія патрабуюць галоўным чынам арганізацыйных мер, якія патрабуюць узмацнення ўвагі я і хачу далажыць Надзвычайнаму З'езду Советаў.

Мы маем вялікія поспехі ў галіне прамысловасці. У гэтым годзе выпушчаецца па саюзнай і рэспубліканскай прамысловасці прадукцыі на 150 млн. руб. больш, чым павінна быць выпушчана к канцу года па плану. Гэта вялікае дасягненне—выпусціць дадаткова на 150 млн. руб. прадукцыі. Але побач з гэтым, таварышы, ёсць прадпрыемствы, якія не выконваюць плана, а такія прадпрыемствы ёсць.

Па лініі саюзнай прамысловасці тры прадпрыемствы НКЦяжпрома плана не выконваюць. Па лініі НК Леспрома 18 прадпрыемстваў не выконваюць пакуль што плана на працягу трох кварталаў. Па НКМясцпрому (у яго многа прадпрыемстваў, многа галін прамысловасці перавыконваючых план) ёсць 29 прадпрыемстваў, якія стаяць перад пагрозай невыканання гадавога плана. І мы павінны сказаць, што не да твару к

канцу стаханаўскага года выйсці гэтым прадпрыемствам з невыкананнем плана на агульным фоне перавыканання плана на 9 проц. па выпуску прадукцыі ўсёй прамысловасцю Беларусі.

Стаханаўскі рух, які шырока разгарнуўся ва ўсіх прадпрыемствах, дазваляе пры лепшай арганізацыі, пры скарыстанні ўсіх і ўсялякіх магчымасцей, якія дае гэты рух, выканаць і перавыканаць план нават адстаючым прадпрыемствам. Гэта мы павінны цвёрда сказаць тым кіраўнікам прадпрыемстваў і трэстаў, якія да гэтага часу плятуцца ў хвасце агульнага вялікага руху. У асаблівасці, таварышы, трэба сказаць, што да гэтага часу, пры вялікім развіцці нашай прамысловай індустрыі, пры вялікіх яе поспехах, вельмі сільна адстае прамысловасць раёнаў. Яна не выконвае пакуль што плана. Не выконвае, напрыклад, план млыновая прамысловасць. Не ладзіцца з гэтай прамысловасцю, якая, як відаць, патрабуе вялікай увагі раёнаў і лепшай арганізацыі. План па рыбе чамусьці не выконваецца. Хіба-ж мы лавіць рыбу не можам? Ды наша савецкая тэхніка, у тым ліку і тэхніка рыбалоўства, настолькі ўдасканалена, што мы можам паймаць нават вялікіх акул, у тым ліку і акул імперыялізма, а рыбтрэст не можа лавіць рыбу ў нашых вадаёмах. Недарэчна атрымліваецца. Справа не ў тым, што мы не можам гэта зрабіць, а ў тым, што недастаткова ўвагі, недастаткова арганізацыі для таго, каб гэту, нібы-та невялікую, але вельмі важную ў галіне харчовай прамысловасці, справу паставіць як належыць.

У галіне сельскай гаспадаркі. Мы ідзем з вялікімі поспехамі і па зернавых і тэхнічных культурах. Не гледзячы на тое, што гэты год для зернавых культур быў не зусім спрыяльным ў кліматычных адносінах, усё-ж мы выходзім па ўраджайнасці з гонарам.

У сельскай гаспадарцы ёсць у нас галіна, якую асабліва падкрэсліў у сваім дакладзе т. Чэрвякоў, гэта—лён, які складае 10 проц. ад ільняной здабычы па СССР. Гэтая важная і вялікая галіна гаспадаркі не механізавана ў належнай ступені.

На рабоце па ільну ёсць выдатныя стаханаўцы. Па церабленню ільну выдзяляецца стаханаўка Казлоўская з калгаса «Чырвоны баявік» Талачынскага раёна, якая сістэматычна церабіла 0,40 га ў дзень. Па трапанню ільну—стаханаўка Буменкова Анна Гаўрылаўна з калгаса «Другая пяцігодка», Чавускага раёна, якая давала 101 клгр. ільну 16 і 18 нумарамі за рабочы дзень.

А побач з гэтым машыны для ільноапрацоўкі, якія замяняюць сабой цэлы завод, або прастойваюць на складах, або прастойваюць ў калгасах. Чаму не асвоены? Таму што інструкцыі не здагадаліся выслаць і тыя, хто рабіў машыну, і тыя, хто дасылаў яе калгасу. Машыну зрабіць здолелі, хоць машына складаная, а інструкцыю саставіць і паслаць не здолелі. Дробязь не дарабілі! А вось такія дробязі затрымліваюць у радзе выпадкаў вялікія справы.

Па аднаму з важнейшых мерапрыемстваў сельскай гаспадаркі—угнаенню ёсць перавыкананне плана па здабычы і вывазцы на палі торфу. Вызначана было вывезці для ўгнаення палей пад ураджай 1936 года—2830 тыс. тон торфу, а вывезлі 4430 т. тон. План выканалі з перавышэннем на 58 проц. На 1937 год намячаецца здабыча і вывазка 7 млн. тон торфу для ўгнаення нашых палёў.

Сцвярджэнням такіх ілжэвучоных, як акадэмік Бахцееў, які даказваў, што торф зімой нельга здабываць і вывозіць, калгаснікі далі дастойны адказ. Торф не толькі здабылі зімой, але і вывезлі на палі і перавыканалі план, даўшы наглядны ўрок ілжэвучоным людзям.

Але побач з гэтым ёсць недахоп: недавывезена вапна, план па якой выканан толькі на 48 проц.

Прыклад з торфам паказаў, што мы можам шырока перавыконваць планы ўгнаення палёў, што дасць залаты збор зернавых і тэхнічных культур.

Па жывёлагадоўлі мы перавыконваем план. Ідзем не дрэнна па вырошчванню буйнай рагатай жывёлы і свіней і некалькі горш па вырошчванню авечак. Але нам трэба вельмі моцна падцягнуцца па вырашчванню жарабят, па ўзмацненню конскай гаспадаркі.

Коні патрэбны не толькі для гаспадаркі, але ў выпадку неабходнасці яны патрэбны будуць для таго, каб нашы калгасныя кавалерысты селі на гэтых коней і разам з чырвонай кавалерыяй, разам з совецкім казацтвам змаглі даць урок ворагу, калі ён уздумае напасць на нашу краіну (а п л а д ы с м е н т ы).

Так што за справу вырошчвання коняй трэба ўзяцца мацней. Мы можам гэта зрабіць. Аб гэтым гавораць поспехі ў галіне нашай жывёлагадоўчай гаспадаркі па буйнай рагатай жывёле. Таму недахоп па лініі вырашчвання жарабят мы павінны знішчыць у наступныя месяцы ў пачатку 1937 года.

У гэтым годзе мы маем агромную праграму капітальнага будаўніцтва ва ўсіх галінах нашай гаспадаркі. У 1936 годзе па пастанове ўрада павінны быць уведзены ў эксплаатацыю аб'екты будаўніцтва на суму 142 млн. руб. супроць 96 млн. руб. мінулага года. Гэта будаўніцтва па пастанове ЦК ВКП(б) і СНК Саюза ляжыць, галоўным чынам, на нашых падрадных будаўнічых арганізацыях, на нашай будаўнічай індустрыі, якую мы павінны былі ў 1936 годзе стварыць па-сапраўднаму.

Аб тым, наколькі вялікі планы нашых будаўнічых арганізацый толькі па будаўніцтву відаць з таго, што такія арганізацыі як, напрыклад, Белпромбуд, Белкомбуд, Менбуд мелі план будаўніцтва ў 1935 г. на 35 млн. руб., а ў 1936 г. тыя-ж арганізацыі маюць план работ на 85 млн. руб.

Але з асваення капіталаўкладанняў атрымліваецца нядобра. Мы маем вялікія капіталаўкладанні ў 1936 годзе на суму

ў 150 млн. руб. толькі па рэспубліканскай гаспадарцы, а асвойваем іх у лепшым выпадку на дзве трэці.

У чым прычына такога дрэннага асваення?

Некаторыя схільны звальваць усё на недахоп будматэрыялаў. Зразумела, у нас ёсць недахоп у паасобных будматэрыялах. Нам патрэбна вялікая колькасць будматэрыялаў, у якіх у нас бывае часам недахоп. Але ці у гэтым толькі недахопы ў будаўніцтве? Не, не ў гэтым. Асноўнае ў тым, што наша будаўнічая індустрыя не перабудавалася па-сапраўднаму, згодна ўказанняў ўрада. Засталося яшчэ саматужніцтва, работа па-старынцы.

На радзе будоўляў шырока разгарнуўся стаханаўскі рух. Па Белкамунбуду брыгада каменшчыкаў тав. Дворкіна сістэматычна выконвае план на 200 проц. Брыгада т. Тачыліна—на 175 проц., т. Казакевіч, Брэгубовіч, Ермакоў—штукатуры—на 200 проц., сталяры—т. т. Ленушкін і Фельдман—на 250 проц. Пры такім пад'ёме стаханаўскага руху ёсць усе магчымасці для лепшай арганізацыі будаўніцтва. Але кіраўнікі бударганізацыі не скарыстоўваюць, як належыць, механізацыі, не выкарыстоўваюць тэхніку. Нашым будаўнікам трэба падцягнуцца для таго каб велізарныя сродкі, якія дае нам Савецкі Саюз, былі-б скарыстаны ў БССР для яшчэ больш высокага ўздыму прамысловасці і сельскай гаспадаркі.

Вось к прыкладу: робяць у нас надбудову. Стала прывычным для нашых будаўнікоў, што пры надбудовах абавязкова разбіраюць крышу, робяць надбудову і потым зноў кладуць крышу. А ў Маскве ужо пяць год крышу ніхто не знімае, а падымаюць яе на дамкратах і робяць кладку сцен пад крышай. У нас-жа спатрэбілася ўмяшацельства НК Аховы здароўя, які сам выпісаў дамкраты для сваіх будоўляў, каб правесці гэта мерапрыемства.

Падумаеш, якая «непераадольная» тэхніка! Творым цуды ў галіне тэхнікі. Будуем у Беларусі складанейшыя машыны і станкі, а не можам асвоіць пад'ёму дамкратам крышы.

Таварышы будаўнікі, трэба ад саматужніцтва перайсці да сапраўднага аўладання тэхнікай з тым, каб у найкарацейшы тэрмін падцягнуцца і быць сапраўднай Савецкай будіндустрыяй. Гэта асноўная задача, бо ў нас многа сродкаў застаецца невыкарыстанымі. Хіба-ж нашы будаўнікі будаваць не могуць, хіба-ж нашы рабочыя не умеюць будаваць? Нічога падобнага. У нас ёсць бліскучыя ўзоры высокай якасці будаўніцтва: Палац Піянераў, Дом Чырвонай Арміі, якія былі прыгожа, добра і хутка пабудаваны ў вызначаныя ўрадам тэрміны. Мы зараз знаходзімся напярэдадні прыняцця плана на 1937 г., плана, па якому праграма работ з'яўляецца не меншай, а нават у некаторай частцы значна большай, чым на 1936 год.

Па раду асноўных паказчыкаў намечаныя намі лічбы гавораць аб тым, якія вялікія задачы стаяць перад намі па асваенню сродкаў. Па ахове здароўя намі намячаецца 21 млн. руб., па

асвеце—31 млн. руб. Гэта толькі па двух галінах. Я не гавару аб усіх іншых. 150 млн. руб. укладанняў толькі па рэспубліканскаму будаўніцтву на 1937 год гавораць аб тым, якія вялікія задачы стаяць перад намі, да выканання якіх трэба рыхтавацца ўжо цяпер. Напярэдадні 1937 г. трэба рыхтавацца да будаўніцтва з тым, каб яно праводзілася бесперапынна, каб яно ў нас праводзілася з самага пачатку 1937 года. Па плану 1937 года намечаны не толькі па рэспубліканскай, але і па саюзнай гаспадарцы велізарныя ўкладанні. Намечана Дзяржпланам Саюза такое будаўніцтва, як Аршанскі камбінат, у які ў гэтым годзе ўкладаецца 21 млн. руб., а ў 1937 годзе—47 млн. руб. Гэта—аграмадная сума вызначана для першага гіганта нашай ільнаводчай прамысловасці, першага, але далёка не апошняга, бо мы павінны мець некалькі такіх гігантаў, каб апрацаваць цалкам лёгкія тканіны наш залаты лён, здабываемы ў БССР (а п л а д ы с м е н т ы).

Па сельскай гаспадарцы намячаецца далейшае павелічэнне механізацыі. Намячаецца, як мінімум, завоз 1300—1500 трактароў, завоз 500 камбайнаў, у дадатак да першых сотняў, якія былі атрыманы ў гэтым годзе. Намячаецца не менш поўтысячы, а мы чакаем, што гэта лічба будзе павялічана да тысячы аўтамашын для калгасаў, для транспарта сельскай гаспадаркі.

Аб чым гаворыць гэты план, аб чым гаворыць ўся рэчаіснасць, аб чым гавораць нашы бліжэйшыя, зусім рэальныя перспектывы? Яны гавораць аб тым, што мы можам добра будаваць, што нам неабходна знішчыць паасобныя дасадныя недахопы, што гэтыя недахопы прадстаўляюць сабой літаральна дробязь ў параўнанні з той вялікай справай, якая была выканана ў 1936 годзе і якую мы павінны выканаць ў 1937 годзе. Будуем мы для сябе і само сабой зразумела павінны будаваць як след для таго, каб вышэй і вышэй бязмежна разгортвалася наша матэрыяльнае і культурнае жыццё. Мы бачым бліскучыя прыклады таго, як выкананне плана вялікіх работ за кожную пяцігодку, за кожны год з'яўляецца жывой справай, справай партыі, справай гарантаванай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыяй, справай стала забяспечанай творчасцю мільёнаў працоўных, нашай партыяй і вялікім Сталіным.

Нашы планы не толькі рэальны, нашы планы перавыконваюцца. Побач з гэтым, якімі жалкімі з'яўляюцца патугі капіталістаў стварыць свае фашысцкія 4-х годкі, як гэта імкнецца зрабіць Гітлер, як жалкі спробы планавання капіталістаў Злучаных Штатаў Амерыкі, як гэта рабіў Рузвельт, стваараючы пюдачныя планы. Гэтымі планамі капіталісты спрабуюць спыніць сваё падзенне ў пропасць. Але гэта пропасць настолькі абрывістая, настолькі глыбокая, што ніякія спробы планавання не змогуць забяспечыць капіталістаў ад падзення ў гэтую пропасць. У гэтую пропасць паляціць увесь капіталістычны свет. У той-жа час усё вышэй і вышэй расце і будзе расці далей

наша бяскласавае сацыялістычнае грамадства, наша радзіма, наша вялікая краіна сацыялізма (а п л а д ы с м е н т ы).

Задача заключаецца ў тым, каб не задавальняцца дасягнутым, каб расці ўсё вышэй і вышэй, бо няма граніцы культурным запатрабаванням працоўных. Чым вышэй мы паднімаемся, тым радасней, шчаслівей і прыгажэй становіцца жыццё, тым больш хочацца ісці ўвышыню. Няма граніцы для будаўніцтва, для ўздыму гаспадаркі і культуры совецкай краіны пад кіраўніцтвам нашай вялікай партыі.

Мы павінны забяспечыць гэты ўздым ад усялякіх каменняў, якія могуць пападацца на нашым шляху, змятаць іх, выраўніваць шлях, каб далей і вышэй ісці пад вадзіцельствам нашага вялікага Сталіна да далейшых перамог, ісці стройнымі радаснымі радамі да ажыццяўлення далейшых планаў вялікіх работ, якія забяспечваюцца кіраўніцтвам мудрага, вялікага любімага Сталіна (д о ў г і я а п л а д ы с м е н т ы).

**Старшыня.** На гэтым ранішняе пасяджэнне закрываецца.

**Аб'яўляю перапынак да 6-ці гадзін.**



*Рэдакцыйная камісія З'езда*
*Адказны рэдактар Н. В. КАЗЮК.*

Зак № 1239. 1000 экз. Галоўлітбел № 5461.

Друкарня імя Сталіна. Менск.